Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 30 (4728) 2 жніўня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў праваслаўных хрысціян Беларусі з 1025-годдзем Хрышчэння Русі. «Прыняцце хрысціянства стала для ўсходніх славян жыватворнай крыніцай, вызначыла развіццё дзяржаўнасці, нацыянальных культур, навукі і адукацыі, — гаворыцца ў віншаванні. — Ва ўсе часы Царква служыла веснікам надзеі, прапаведавала лепшыя традыцыі міласэрнасці, працавітасці і адданасці Радзіме. І сёння яе аўтарытэт і вопыт запатрабаваны ў грамадстве. Праваслаўная царква напаўняе жыццё мудрасцю і любоўю, дапамагае захоўваць стабільнасць і згоду ў нашым беларускім доме».

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначае асаблівую ролю Рускай Праваслаўнай Царквы ў падтрыманні міру і згоды ў грамадстве. Пра гэта Кіраўнік беларускай дзяржавы заявіў на сустрэчы з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Кірылам і прадстаўнікамі памесных праваслаўных цэркваў.

✔ Надзея, любоў і глыбокая вера аб'ядналі публіку на канцэрце класічнай музыкі з нагоды 1025-годдзя Хрышчэння Русі каля храма-помніка ў гонар Усіх Святых. Такое меркаванне выказаў міністр культуры Барыс Святлоў. Прагучалі творы Міхаіла Глінкі, Пятра Чайкоўскага, Дзмітрыя Шастаковіча ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава. За дырыжорскім пультам быў Яўген Хахлоў. У канцэрце таксама ўзялі ўдзел Алена Сало, Вераніка Прадзед, мужчынскі вакальны ансамбль «Благавест» і іншыя.

✔ Гастролі Маладзёжнага беларуска-расійскага сімфанічнага аркестра пройдуць у Беларусі і Вялікабрытаніі. Пачнуцца выступленні ў Мінску: 6 жніўня калектыў выступіць у канцэртнай зале «Верхні горад». З Мінска музыканты выправяцца ў Вялікабрытанію. 9 жніўня аркестр выступіць у Кембрыджы, 11 жніўня — у царкве *St. John's Smith Square*, якая з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю брытанскай сталіцы і найбуйнейшай канцэртнай пляцоўкай Лондана, на наступны дзень — у Саўтваркскім кафедральным саборы. Заснавальнікі аркестра — Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, Міністэрства культуры Беларусі і Міністэрства культуры Расіі.

✔ У Воранаўскім раёне праходзіць Тыдзень мастацтваў. Культурныя мерапрыемствы завершацца 3 жніўня. У творчым тыдні бяруць удзел прафесійныя мастакі і аматары, паэты і акцёры з Беларусі (Воранаўскі раён) і Літвы (Алітускі раён). Прайшлі вечары паэзіі, пленэр на тэрыторыі парку XIX ст. У апошні вечар праекта будзе прэзентаваная пастаноўка сумеснага беларуска-літоўскага спектакля.

✔ Каля 300 удзельнікаў сабраў у Віцебску праваслаўны маладзёжны фестываль «Адзігітрыя». У ім бяруць удзел прадстаўнікі Беларусі, Расіі і Украіны. У конкурснай праграме форуму запланаваны майстар-класы па харэаграфіі і канцэрт каля сцен Успенскага сабора. Лепшыя ўдзельнікі конкурснай праграмы 3 жніўня выйдуць на сцэну Летняга амфітэатра, дзе адбудзецца святочны гала-канцэрт. 10 жніўня праваслаўная моладзь возьме ўдзел у святочных мерапрыемствах у гонар Смаленскай іконы Божай Маці «Адзігітрыя».

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**





*Фота Лізаветы Дубінчынай, калаж Віктара Калініна*

# Шчымлівая скрыпка ў валошкавым краі

**Днямі адбылося рэспубліканскае свята паэзіі і песні «Ракуцёўшчына-2013». Яно ладзіцца штогод напрыканцы ліпеня — у тую самую пару, калі ў 1911 годзе сюды пасля доўгага расстання з Радзімай прыехаў Максім Багдановіч.**

Тое, пра што напісана ў кожным падручніку па беларускай літаратуры, можна ўспрымаць як сапраўдны раман — гэта значыць не проста ведаць, але адчуваць і суперажываць. Апантаны любоўю да Бацькаўшчыны, клопатам за яе лёс юнак марыць пра родны край, але жыве далёка. Дзякуючы супрацоўніцтву з першай беларускай газетай атрымлівае прапанову выдаўцоў правесці адпачынак на сядзібе іх сваяка. З радасцю пагаджаецца. Ракуцёўскае лета стане самым плённым часам у кароткім жыцці маладога паэта. Зробленае славутым Максімам на ніве айчыннай паэзіі не перасягне за 100 гадоў, бадай, ніхто, а ракуцёўскі эпізод будзе ўспрымацца як сімвал Сустрэчы ўвогуле: з Беларуссю, з паэзіяй Багдановіча, з духоўным жыццём, урэшце — з сабой. Праз чытанні, пераклады, праз песеннае ўвасабленне вершаў паэта перажыць Сустрэчу — упершыню або нанова — можа кожны наведвальнік і ўдзельнік ракуцёўскага свята.

Традыцыйна яно пачынаецца каля каменя-помніка, які з'яўляецца сведкам тых падзей. Уласна кажучы, тут два камені: камень-«свечачка» і камень-«ахвярнік». Абодва разам сімвалізуюць лёс Багдановіча і значэнне яго асобы. «Тут спасцігаў ён таямніцы роднай мовы, пакінуўшы ўрэшце надзвычай глыбокую жыццёвую мудрасць. Дваццаціґадовы юнак вучыць нас і па сёння — 40-, 50-, 60-, 70-гадовых чытачоў. Высновы яго паэзіі дапамагаюць жыць», — словы Таццяны Шэляговіч, дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, не маглі не знайсці водгук ва ўсіх прысутных. Шмат хто з іх таксама выказаў прачулую ўдзячнасць паэту, выступаючы ўжо на адмысловай сцэне — за ваколіцай, паблізу легендарнай крынічкі.

Прыемнай нечаканасцю стаўся прыезд Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Францыі Паўла Латушкі, удзельніка шэрагу ракуцёўскіх свят мінулых гадоў. «Максім Багдановіч выдатна прадэманстраваў годнасць і прыгажосць роднай мовы, якая, безумоўна, вартая таго, каб на ёй размаўляць, пісаць і ёй ганарыцца. Хтосьці спытае, як можна быць патрыётам, калі чалавек амаль не жыў на радзіме, хадзіў па яе зямлі толькі каля пяці гадоў. Лёс і дзейнасць паэта — выдатнае сведчанне сапраўднага патрыятызму, на які здольны не кожны пастаянны жыхар краіны. Гэта — прыклад для нас усіх».

Заканчэнне чытайце на стар. 2

*Шлях да святыняў*

# Водгалас Хрышчэння

Рыта СТАХ

Жыхары Беларусі спрычыніліся да святкавання 1025-годдзя Хрышчэння Русі. Яно адбылося не толькі на дзяржаўным, а і на міждзяржаўным узроўнях: адпаведныя святочныя мерапрыемствы прайшлі таксама ў Расіі і Украіне. У Мінск для ўдзелу ва ўрачыстасцях прыехалі прадстаяцелі праваслаўных цэркваў свету.

Як адзначыў на сустрэчы з журналістамі архіепіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый, хрышчэнне Русі зрабіла магчымым з'яўленне на нашых землях такіх выдатных людзей, як прападобны Феадосій Пячэрскі; прападобная Еўфрасіння, ігумення Полацкая; свяціцель Кірыла Тураўскі; прападобны Сергій Раданежскі; свяціцель Аляксій, мітрапаліт Маскоўскі; свяшчэнамучанік Патрыярх Ермаген; прападобнамучанік Афанасій, ігумен Брэсцкі; свяціцелі Пётр Магіла, Георгій Каніскі і Феадосій Чарнігаўскі ды інш. І добра, калі ахвярнае самаадрачэнне і духоўнае ўдасканаленне і сёння з'яўляюцца прыкладам сапраўднай духоўнасці ды высокіх маральных прынцыпаў.

Менавіта беларускую традыцыю выхавання маральных каштоўнасцей паказалі ў экспазіцыях, прымеркаваных да юбілейных дзён. У Нацыянальным гістарычным музеі адкрылася выстаўка «У промнях веры хрысціянскай».




*Святкаванне ў Мінску 1025-годдзя Хрышчэння Русі.*

Яе арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гістарычны музей і Сабор нараджэння Божай Маці г. Глыбокае. Выстаўка, прысвечаная хрышчэнню Кіеўскай Русі ў 988 годзе, яшчэ раз пацвердзіла: біблейскія вобразы і літургічныя матывы моцнымі каранямі ўвайшлі ў нашу культуру. На выстаўцы прадстаўлена больш як 320 экспанатаў з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, а таксама абразы з Глыбоцкага сабора. Культавыя прадметы, у якіх увасобленыя лепшыя рысы творчасці беларусаў і іх светаўспрыманне, настолькі ўнікальныя і разнастайныя, што складана было ўмясціць у межы трох тэматычных блокаў.

Першы блок на выстаўцы складае менавіта калекцыя нацельных крыжыкаў. Найбольш раннія з іх датуюцца X ст., калі хрысціянства толькі прыйшло на нашыя землі. У гэтым жа блоку прадстаўлены абраз «Хрышчэнне ў Ярдане», выявы Іаана Хрысціцеля.

Другі блок — гэта прадметы царкоўнага начыння, што выкарыстоўваюцца ў службе: літургічны посуд, святарская вопратка, богаслужэбныя кнігі.

У трэцім распавядаецца пра манастыры — цэнтры асветы, дзе шчыравалі знаныя асобы Беларусі. Прадстаўлены кнігі, якія друкаваліся пры Куцеінскім і Магілёўскім, захоўваліся ў іншых старажытных манастырах.

Яшчэ адна выстаўка — трох абразоў са збораў найбуйнейшых музеяў Беларусі (Полацка, Гродна і Мінска) — адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Экспанаты, прадстаўленыя на выстаўцы, адлюстраваны на паштовым блоку, выдадзеным у юбілейным годзе Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам «Белпошта». Гэта абраз з Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, які раней знаходзіўся ў Сафійскім саборы, — «Троіца старазапаветная», абраз «Спас Уседзяржыцель» са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь ды ікона «Не рыдай Мяне, Маці» сярэдзіны XIX стагоддзя з Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі.

# У гонар Якуба Коласа

Вячаслаў РАГОЙША

У невялікую вёсачку Палачанка непадалёк ад Ракава, што ў Валожынскім раёне, «прыйшоў» Якуб Колас. Яго аблічча — на мемарыяльнай шыльдзе работы народнага мастака Беларусі Івана Міско, устаноўленай на доме Марціна Мікалаевіча і Леакадзіі Уладзіміраўны Букрэяў. Пра гэта сведчыць і надпіс на шыльдзе: «У гэтым доме ў 1953 — 1956 гадах неаднаразова спыняўся народны паэт Беларусі Якуб Колас». 27 ліпеня гэтага года ва ўрачыстай абстаноўцы, з удзелам жыхароў Палачанкі і Ракава, вучняў Ракаўскай СШ і тутэйшага дзіцячага лагера адпачынку быў адкрыты яшчэ адзін мемарыяльны знак у гонар славутага песняра Бацькаўшчыны.

Але чаму менавіта ў Палачанцы з'явілася гэта шыльда? У народнага паэта сваёй дачы не было. Да вайны ён наймаў лецішча ў Пухавіцкім раёне: у Балачанцы. Вайна панішчыла тыя мясціны. Трэба было выбіраць новае месца летняга адпачынку, і не столькі для сябе (працоўныя клопаты, хваробы не пакідалі шмат часу на гэта), колькі для дзяцей і ўнукаў. Месца і канкрэтную хату падказала, магчыма, цёця Уладзя, жонка Янкі Купалы, якая летавала ў суседнім Міхалове. Ды і назва вёскі (што для мастака слова таксама важна) лашчыла вуха: яна нітавалася нашымі старажытнымі продкамі палачанамі, дый любімую Балачанку нагадвала. Радавала вока і сама драўляная хата Мікалая Букрэя, толькі што пастаўленая на высокім беразе лясной рачулкі з чысталю смалістых бярвенняў, крытая свежай дранкай. Тое, што трэба! Гаспадары хаты рады былі займець такога кватаранта. Ды і Канстанцін Міхайлавіч доўга не раздумваў, толькі папрасіў хату не шаляваць, не фарбаваць, унутры не абклейваць шпалерамі — «каб смаляны дух не выветрыўся».



*З удзельнікамі народнага мастацкага гурта «Гасцінец». У цэнтры — Міхась Міцкевіч.*

Чатыры леты прыязджалі на адпачынак у Палачанку сем'і сыноў Якуба Коласа — Данілы і Міхася. Да самай сваёй смерці ў 1956 годзе нярэдка завітваў сюды і сам паэт, часам заставаўся тут на некалькі дзён. Па ўспамінах жыхароў вёскі, яго наведвалі некаторыя беларускія пісьменнікі — Максім Лужанін, Міхась Калачынскі, Уладзімір Дубоўка... І зусім лагічна, што тыя колішнія памятныя падзеі не сцерліся з памяці ваколічнага люду і выказаная ў тых публікацыях прапанова, з разуменнем падтрыманая ўладамі — ад мясцовых і да рэспубліканскіх, — знайшла цяпер увасабленне ў мемарыяльнай шыльдзе.

Ва ўрачыстым адкрыцці, што праходзіла пад кіраўніцтвам начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама Вікенція Адамовіча, узялі ўдзел сын Якуба Коласа, доктар тэхнічных навук, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Міхась Міцкевіч, народны мастак Беларусі скульптар Іван Міско, мастак-жывапісец Фелікс Янушкевіч і аўтар гэтых радкоў. З асаблівым захапленнем прысутныя слухалі выступленне Міхася Міцкевіча, які не толькі прыгадваў сваю пабыўку ў Палачанцы, але і чытаў па памяці многія радкі вершаў свайго бацькі. Урачыстасць упрыгожыў сваім выступленнем славуты калектыў Ракаўскага Дома культуры «Гасцінец». Вучаніца 7 класа Мінскага гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка Вікторыя Янушкевіч выканала на флейце бессмяротны «Паланэз Агінскага». Мясцовы фермер Аляксандр Грынкін прачытаў свой верш «Якубу Коласу», спецыяльна напісаны да гэтай падзеі.

# Эксклюзіў ад «Маладосці»

**Часопісу «Маладосць» ёсць чым ганарыцца. У гэтым упэўніліся ўдзельнікі прэс-прэзентацыі кнігі «Скрозь «Маладосць…», якая адбылася нядаўна ў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Была прадстаўлена «Не самая сумная кніжка пра грошы, чорны шакалад, пісьменнікаў і літаратуру», створаная да 60-годдзя часопіса.**

Раіса МАРЧУК

— Кожны раздзел кнігі, кожны матэрыял замоўлены і напісаны спецыяльна для яе, — распавяла рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава. — Пры гэтым кніга, створаная паводле афіцыйнай нагоды, не з'яўляецца помнікам да юбілею і зборам лепшых твораў, якія ўбачылі свет у «Маладосці». Гэта сапраўднае падарожжа па часе, зрэз эпохі другой паловы XX стагоддзя — жыццё людзей у савецкія часы праз прызму мастацкай літаратуры. Атрымаўся выбітны зборнік для сямейнага чытання. Першыя чытачы заўважаюць, што гэта «незвычайна ўтульная кніга з вялікай доляй добрага гумару і з прэтэнзіяй на вялікі поспех».

Кніга складаецца з чатырох частак. У першую ўвайшло пяць інтэрв'ю з рознымі персонамі. Пачынае гутарка з Адамам Мальдзісам, які ўзгадвае гісторыю «Маладосці» літаральна з таго дня, як ён даведаўся, што павінен з'явіцца такі часопіс… Не можа не зацікавіць размова з акадэмікам Уладзімірам Гніламёдавым, крытыкам Пятром Васючэнкам, паэтамі Алесем Бадаком і Таццянай Сівец.

— Далей ідуць развагі і ўспаміны, калі пра самыя, можна сказаць, прыватныя сітуацыі, звязаныя з часопісам, расказваюць супрацоўнікі розных гадоў: галоўныя рэдактары, іх намеснікі, пісьменнікі, якія заходзілі ў рэдакцыю, — патлумачыла Святлана Дзянісава. — Чацвёртая частка — гэта пратаколы пасяджэнняў рэдакцыйнай калегіі 60-х гадоў мінулага стагоддзя, чытаць якія не менш цікава, чым размовы з мэтрамі айчыннай літаратуры, разважанні і ўспаміны тых, хто працаваў у «Маладосці» і для «Маладосці». Знаёмячыся з імі, адчуваеш нейкі пераварот у свядомасці...

Шмат старонак у выданні прысвечана былому галоўнаму рэдактару «Маладосці», паэтэсе Раісе Баравіковай, якая зазначыла, што часопіс заўсёды быў у авангардзе літаратурнага працэсу, лічыўся самым папулярным, самым дзёрзкім, смелым. Толькі ў «Маладосці» спачатку друкавалі свае творы Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч. З «Маладосці» пачыналі многія зоркі беларускага пісьменства.

Дарэчы, нядаўна пачаў працаваць абноўлены сайт часопіса «Маладосць»: *www.maladost.lim.by*

# Шчымлівая скрыпка ў валошкавым краі

**Заканчэнне. Пачатак чытайце на стар. 1**

Над ракуцёўскім полем прагучаў і добра знаёмы ўсім пранікнёны голас Навума Гальпяровіча, які не мог стрымаць гонар ад нядаўняга прачытання ім верша паэта на… Вялікай Кітайскай сцяне. «Кажуць часам, што беларускую мову прыдумалі пісьменнікі. Дык адкуль жа Максім Багдановіч браў беларускія словы ў далёкім Яраслаўлі, ці «пісьменніцкую» мову засвойваў тут, у Ракуцёўшчыне!..» Сапраўды, што да моўнай дасканаласці, творы паэта, геніяльна і непаўторна спавітыя ў «Вянок», — спадчына стагоддзяў духоўнай культуры Беларусі.

«Музыка перш за ўсё!..» Верленаўскі эпіграф да «Вянка» сапраўды выдатна пасуе да багдановічаўскіх вершаў: яны вельмі добра кладуцца на музыку. Шмат артыстаў — музыкаў і спевакоў — таксама выказалі сваю пашану паэту. Канцэрт на амаль імправізаванай сцэне, амаль у чыстым полі стаўся сапраўдным музычным святам дзякуючы іх майстэрству, шчыра ўдзячнаму ўспрыманню постаці і спадчыны таго, каго ўсе любоўна называлі Максімам. Асабліва моцным падалося выступленне гурта «Нельга забыць» — пераможцы «Бардаўскай восені-2012», добрага сябра музея паэта. Шчымлівая скрыпка, водгалас з нябёсаў....

Таццяна СТУДЗЕНКА

# Падарунак з Пецярбурга

Падчас святкавання 580-годдзя г. Пружаны сусветна вядомы мастак Іван Чарнякевіч зрабіў шыкоўны падарунак роднаму гораду — перадаў у фонды музея-сядзібы «Пружанскі палацык» тры свае работы, якія можна пабачыць на «Выстаўцы трох карцін».

**Наталія ПРАКАПОВІЧ**

Гэты крок мастака — прыклад для іншых пружанскіх ураджэнцаў, фактычна пачатак збору, які можа стаць асновай для стварэння ў горадзе мастацкай галерэі.

Творца працуе з рознымі матэрыяламі і ў розных тэхніках: жывапіс, роспіс тканін і інш. Актыўную выставачную дзейнасць вядзе з 1981 г. і прадстаўляе свае работы ў Расіі, Італіі, Нідэрландах, Швейцарыі, Эстоніі, Латвіі і Беларусі. Сёння яго карціны знаходзяцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі, музеі кнігадрукавання Францыска Скарыны ў Полацку, беларускім культурным цэнтры г. Сіднея (Аўстралія), Рускім культурным цэнтры г. Сеула (Карэя), Ваенна-касмічнай акадэміі імя Мажайскага (г. Санкт-Пецярбург), у прыватных зборах — Расіі, Нідэрландаў, Францыі, Італіі, ЗША.

Палотны, якія можна ўбачыць у «Пружанскім палацыку», розныя як па манеры выканання, так і па настроі, эмацыянальным насычэнні. Прынамсі, карціна «Жанчыны Палесся». Фота пачатку XX стагоддзя» — гэта адлюстраванне лёсу Беларусі — з самабытным ладам жыцця, працавітымі людзьмі, з тым пластом традыцыйнай культуры, які быў амаль змецены ў віхуры войнаў, рэвалюцый, рэпрэсій, ганенняў. Карціна прымушае азірнуцца назад, спыніцца і задумацца, што страчана, а што набыта. Своеасаблівы акцэнт у рабоце зроблены на тварах жанчын, вочы якіх пільна ўглядаюцца з небыцця ў сучаснасць. Жанчыны трымаюць на руках малых дзяцей, дзеці стаяць каля ног маці — магчыма, так мастак паказаў сувязь продкаў і нашчадкаў, прызначэнне жанчыны, якая з'яўляецца ўвасабленнем Беларусі, — захоўваць духоўныя каштоўнасці.



*Іван Чарнякевіч «Жанчыны Палесся». 2006 г.*

# Геаметрычная абстракцыя

Персанальная выстаўка жывапісу «Калейдаскоп» Вячаслава Ігнаценкі (Малдова) працуе ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Таццяна ШЫМУК**

Нягледзячы на тое, што Вячаслаў Міхайлавіч жыве і працуе ў Малдове, карані яго таленту ляжаць у беларускай школе жывапісу. Трэба адзначыць, што вялікі ўплыў на В. Ігнаценку аказала творчасць народнага мастака Беларусі Гаўрыіла Вашчанкі.



*Вячаслаў Ігнаценка «Калейдаскоп», 1998 г.*

Стыль, у якім выкананы многія работы, крытыкі называюць геаметрычнай абстракцыяй. У ім гарманічна спалучаюцца рамантыка і рацыяналізм, маляўнічымі графічнымі знакамі і даведзенымі да дасканаласці формамі выяўляюцца законы светабудовы.

— Многія пытаюцца: чаму ў аснове маіх абстрактных работ такая геаметрычная вывеpанасць? Для мяне гэта свайго роду архітэктурнае або праектнае рашэнне на палатне, якое нясе іншую нагрузку і значэнне, чым традыцыйны жывапіс. Хоць іх і аб'ядноўваюць агульныя прынцыпы: кампазіцыя, малюнак, тон, паўтон, святло, цень — форму падкрэслівае і завастрае чысты, кантрасны колер, — тлумачыць мастак.

«Калейдаскоп» — мастацкая прастора, якая ствараецца дзякуючы спалучэнню розных геаметрычных формаў, гульні каляровых плоскасцей, крывых і ламаных ліній. Мастак нетрадыцыйнай выяўленчай мовай, поўнай глыбокага сэнсу, імкнецца выказаць невыказнае, перадаць адчуванне адзінства душы і матэрыі, макра- і мікракосму.

Вячаслаў Міхайлавіч — ураджэнец Гомельскай вобласці. Атрымаўшы адукацыю ў Беларускай акадэміі мастацтваў і зрабіўшы свае першыя крокі ў творчай кар'еры ў Мінску, ён у 1983 годзе з'язджае жыць і працаваць ў Малдову. Мастак з'яўляецца актыўным членам беларускай абшчыны ў гэтай краіне.

На рахунку В. Ігнаценкі каля дваццаці персанальных выставак у Кішынёве, Цірасполі, Адэсе, Мінску. Творчасць мастака непарыўна звязана з Беларуссю. Карціны В. Ігнаценкі ўжо шмат гадоў спрыяюць духоўнаму збліжэнню нашых народаў.

## З нагоды

### «Я люблю…» Высоцкага

Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, нягледзячы на летні час, вырашылі працягнуць традыцыю музычных імпрэз: вечар памяці Уладзіміра Высоцкага яны правялі ў незвычайнай форме. Днямі прыхільнікі творчасці вядомага артыста атрымалі цудоўную магчымасць узгадаць біяграфію і песні куміра ў кампаніі аднаго з заснавальнікаў жанру монаспектакля эстраднай формы Віктара Сінайскага. У літаратурна-музычным спектаклі «…Я люблю… Я не люблю!..» артыст прапанаваў уласнае бачанне жыццёвага шляху знакамітага паэта, кампазітара, спевака і акцёра.

Імпрэзу ў коласаўскім музеі можна лічыць прэм'ернай: пятнаццаць разоў «…Я люблю… Я не люблю!..» з поспехам праходзіў на маскоўскіх сцэнах, беларускія ж гледачы бачаць спектакль упершыню.

Творчы шлях Віктара Сінайскага цесна звязаны з эстрадай і размоўна-музычным жанрам. На беларускай сцэне артыст часта выконваў пародыі і жартаўлівыя куплеты. Літаратурна-музычны спектакль па творчасці Высоцкага — сур'ёзная і грунтоўная праца Сінайскага. У дзве гадзіны імпрэзы выканаўца ўклаў самыя адметныя моманты біяграфіі Высоцкага, выканаў вядомыя і любімыя песні кампазітара, якія падпявала зала.

**Юлія ШАБЛОЎСКАЯ**

# Апынуцца ў Сярэднявеччы

**Раіса МАРЧУК**

На працягу двух дзён, 27 — 28 ліпеня, праходзіў фестываль сярэднявечнай культуры «Рыцарскі фэст. Мсціслаў-2013». Жыхароў горада і шматлікіх гасцей чакала мноства старадаўніх забаў.

Пачалося свята ў Кафедральным саборы святога Аляксандра Неўскага ранішнім набажэнствам у гонар воінаў-мсціслаўцаў, якія загінулі за Айчыну на поле бітвы. Далей на розных пляцоўках — Цэнтральнай плошчы, Замкавай гары, тэрыторыі Езуіцкага кляштара, у гарадскім скверы — адбыліся цікавыя мерапрыемствы: шэсце і прадстаўленне рыцарскіх клубаў, паказы гістарычнай моды, турнір лучнікаў, начныя бугурты, паядынкі на дзідах і мячах, фаер-шоу. З інтэрактыўнай праграмай «Сярэднявечны балаган» пазнаёміў вандроўны тэатр «Гістрыён».

Гледачам былі прапанаваны майстар-клас па сярэднявечных танцах, гульні, батлеечнае прадстаўленне «У карчме», фарс «Закаханая жонка». Рыцарскія клубы паўдзельнічалі ў штурме замка і бітве двух армій. Аматары гісторыі змаглі адправіцца на экскурсіі ў Кармеліцкі касцёл і калегіум Езуіцкага кляштара. Сярэднявечную атмасферу свята дапоўнілі выступленні музычных груп «Літы талер», «Яварына», танцавальнага калектыву «Фламея»…



*Фота Вольгі Семчанка*

На фестываль сабраліся больш як 240 рыцараў з 20 рыцарскіх клубаў і клубаў гістарычнай рэканструкцыі з розных гарадоў Беларусі. Фэст даўно ўжо займеў сваіх прыхільнікаў. Турыстаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, гасцей з Расіі прыцягвае як само мерапрыемства, так і магчымасць пазнаёміцца з багатым гістарычным мінулым і архітэктурай старажытнага Мсціслава.

## Абрысы

Яўрэйскі нацыянальны фонд Расіі прафінансуе першы этап рэканструкцыі Быхаўскай сінагогі. Абмеркаванне лёсу пабудовы, якая цяпер знаходзіцца на частковай кансервацыі, праходзіла пры ўдзеле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Ізраіля ў Беларусі Іосіфа Шагала, прадстаўнікоў Магілёўскага аблвыканкама і Быхаўскага райвыканкама. Быхаўская сінагога была пабудавана ў 1640 — 1650 гг. Яна актыўна выкарыстоўвалася пры абароне горада ад ворагаў у сярэдзіне XVII — пачатку XVIII стст. У 1970 — 1980 гг. каля сінагогі праводзіліся раскопкі, археолагі знайшлі вялікую колькасць артэфактаў, якія пацвердзілі ролю пабудовы ў абароне горада-крэпасці: кулі, мушкетныя ядры, дэталі халоднай і агнястрэльнай зброі. Каб выратаваць аб'ект ад разбурэння, быў адкрыты дабрачынны рахунак для збору сродкаў. На кансервацыю сінагогі з рэспубліканскага бюджэту сёлета выдаткавана больш як 350 млн. рублёў.

Фотавернісаж «Пастырскія візіты Святейшых Патрыярхаў Маскоўскіх і ўсяе Русі Аляксія II і Кірыла ў Рэспубліку Беларусь» адкрыўся ў Мінску. Экспазіцыя разгорнутая ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці — філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. На выстаўцы прадстаўлены здымкі апошняга візіту Святейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II у верасні 2008 года, калі святкавалася 1020-годдзе Хрышчэння Русі. Частка фотаздымкаў адлюстроўвае знаходжанне ў Беларусі Святейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла ў 2009 і 2012 гг. Падчас візітаў адбылося наведванне храмаў Мінска, Полацка, Віцебска, сустрэча з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам і вернікамі, прайшлі гутаркі з моладдзю. Выстаўка падкрэслівае тую ўвагу, якая ў апошні час надаецца супрацоўніцтву дзяржавы і царквы.

Упершыню ў Гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў, прадстаўлена ўнікальная выстаўка старажытнарускага правага шытва XV — XVII стст. з фондаў Разанскага гісторыка-архітэктурнага музея-запаведніка. Большасць экспанатаў пакідала Разань толькі аднойчы, калі дэманстраваліся ў Ватыкане 20 гадоў таму. Прававе шытво было элітарным мастацтвам, распаўсюджаным пры дварах манархаў, шляхты, у жаночых кляштарах і купецкіх сем'ях. Шытыя творы, у адрозненне ад абразоў, ніколі не ствараліся ў мностве, на запас ці на продаж. Разанская калекцыя уключае ўнікальныя экспанаты. Амаль усе гэтыя помнікі былі сабраныя яшчэ ў 1912 г. і перададзены пасля ў Разанскі губернскі музей. Выстаўка «Жывапіс іголкаю» — выдатны падарунак гамяльчанам і гасцям горада.

Самы вялікі конкурс сярод абітурыентаў БДУ зафіксаваны на гуманітарным факультэце па спецыяльнасці «дызайн» (кірунак — камунікатыўны) — 10,8 чалавека на месца! Зрэшты, сёлета ў БДУ адзначана некалькі рэкордаў. Сярэдні конкурс па ўніверсітэце апярэдзіў паказчык 2012 года і склаў 1,7 чалавека на месца. Стала больш пераможцаў міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд. Сярод іх — 10 прызёраў міжнародных алімпіяд і 5 лаўрэатаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. За магчымасць вучыцца ў вядучай ВНУ краіны змагаліся здольныя юнакі і дзяўчаты, сярод якіх амаль палова маюць сумарны бал сертыфікатаў па ЦТ вышэй як 300.

Юбілеі

# «Верыць можна ў зару і святло...»

*ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІКОЛЫ ГРЫНЧЫКА*



Біяграфія Міколы Грынчыка, як на першы погляд, шмат у чым звычайная. Можна нават сказаць, тыповая для тых, хто дзякуючы савецкай уладзе дасягнуў многага. Родам Мікола Грынчык з вёскі Быцень цяперашняга Івацэвіцкага раёна. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Цяга да ведаў прывяла яго ў мясцовую, так званую паўшэхсную школу. Калі ж Заходняя Беларусь была вызвалена ад белапольскіх акупантаў, працягваў вучобу ў Слоніме, пасля — у Косаве. Ён па-сапраўднаму любіў сваю родную зямлю. Таму, калі пачалася чарговая акупацыя — на Савецкі Саюз напала фашысцкая Германія, — звязаў свой лёс з партызанскім падполлем, якое дзейнічала ў Слоніме, а ў сакавіку 1943 года стаў агентурным разведчыкам партызанскага атрада «Савецкая Беларусь» брыгады імя П. К. Панамарэнкі Брэсцкага партызанскага злучэння. Давялося Міколу Грынчыку павяваць і на фронце: у дзеючую армію прызвалі ў ліпені 1944-га, пасля вызвалення Беларусі. Быў цяжка паранены.

Калі пачалося мірнае жыццё, загадваў аддзелам сацыяльнага забеспячэння Быцінскага раёна — быў і такі, — вучыўся на літаратурным факультэце Гродзенскага педагагічнага інстытута, а пасля заканчэння якога ў 1952 годзе пачаў настаўнічаць на Гродзеншчыне. Годам раней у газеце «Гродзенская праўда» выступіў са сваім першым артыкулам. Любоў да літаратуры, жаданне самому пісаць, займацца творчай працай прывяло М. Грынчыка ў аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Скончыўшы яе ў 1957 годзе, на працягу многіх гадоў быў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута, а ў 1970 годзе стаў загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адначасова ў 1973 — 1985 гадах займаў пасаду галоўнага рэдактара рэспубліканскага навуковага міжведамаснага зборніка «Беларуская літаратура». У 1980 годзе перабраўся ў сталіцу, узначаліў кафедру літаратуры тагачаснага Мінскага інстытута культуры.

Актыўнай літаратурнай дзейнасцю Грынчык займаўся з 1957 года, выступаючы ў перыёдыцы з рэцэнзіямі на новыя кнігі, з літаратуразнаўчымі артыкуламі. Не чужой была яму і навукова-даследчыцкая праца. Прытым у згаданым кірунку творчай дзейнасці Мікола Грынчык дасягнуў вельмі шмат. Гэта і не дзіўна: яго глыбокая эрудзіраванасць была падмацавана належнай тэарэтычнай падрыхтоўкай. Спачатку абараніў кандыдацкую дысертацыю, потым доктарскую.

Кола навукова-даследчыцкіх інтарэсаў Мікалая Міхайлавіча было шырокае, але асабліва яго цікавіла паэзія, а калі больш канкрэтна, дык у першую чаргу творчасць Максіма Багдановіча, пра што, у прыватнасці, засведчыла першая ўжо манаграфія Міколы Грынчыка «Максім Багдановіч і народная паэзія» (1963). Аўтар узяўся разглядаць творчасць гэтага выдатнага паэта ў непарыўнай сувязі з нацыянальным фальклорам.

Манаграфія адразу прыцягнула ўвагу багдановічазнаўцаў, бо для свайго часу стала наватарскай. Мікалай Міхайлавіч, разглядаючы феномен Багдановіча-творцы, дэталёва прасачыў кожны этап яго паэтычнай дзейнасці ў засваенні фальклору. Пачынаючы ад выкарыстання фальклорнай міфалогіі, што, як вядома, яскрава выявілася ў паэтычнай нізцы «У зачарованым царстве», да апрацоўкі народных матываў у «вершах беларускага складу». Пры гэтым асаблівую ўвагу даследчык засяродзіў на тым, што Максім Багдановіч аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне нацыянальнай паэтычнай школы. Неацэнная яго роля і ў засваенні беларускай паэзіяй класічных і наватарскіх прыёмаў версіфікатарства.

Пры вывучэнні творчасці Максіма Багдановіча Грынчык-аналітык і Грынчык-тэарэтык ішлі поруч. Упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве былі вылучаныя і тэарэтычна абгрунтаваныя асобныя зыходныя прынцыпы мастацкага фальклярызму. Пра адданасць творчасці Максіма Багдановіча, імкненне як мага глыбей спасцігнуць сутнасць яго таленту, засведчылі і даследаванні Міколы Грынчыка «Народна-песенныя матывы ў творчасці М. Багдановіча» (1958), «Народная паэзія ў ранняй творчасці М. Багдановіча. 1908 — 1910 гг.» (1959), «З крыніц жыватворных. Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча» (1961).

Ды не адным Багдановічам, як кажуць, ён жыў. Пра гэта, прынамсі, сведчыць крытыка-біяграфічны нарыс «Аркадзь Куляшоў» (1964). Творчасць шмат якіх беларускіх паэтаў разглядаў Мікола Грынчык і ў калектыўных «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1966), «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1969), «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977). Мікалай Міхайлавіч з'яўляецца і адным з аўтараў шэрагу падручнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ: «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1917 — 1940» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст.» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд» (1985). Асобныя з гэтых дапаможнікаў неаднаразова перавыдаваліся, што сведчыць пра грунтоўнасць іх напісання. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы Міколу Грынчыку. Ён з'яўляецца і аўтарам працы «Шляхі беларускага вершаскладання» (1973), якая па сённяшні дзень мае высокую навуковую вартасць, бо Мікалай Міхайлавіч здолеў глыбока пранікнуць у сутнасць праблемы, якую даследаваў, прыцягнуў для шырокага ўжытку матэрыялы, што і з цягам часу не страцілі сваё першаступеннае значэнне.

Мікола Грынчык-літаратуразнаўца, навуковец, педагог, пісьменнік быў неаддзельны ад Грынчыка-чалавека. Пра такіх звычайна кажуць, што яны душэўна шчодрыя і адкрытыя, цэняць сапраўднае сяброўства і, калі ў гэтым узнікае неабходнасць, ахвотна прыходзяць на дапамогу. Сябраваць жа ён умеў, і многія гэта цанілі. Сярод тых, хто быў высокага меркавання пра Мікалая Міхайлавіча, і Уладзімір Караткевіч, які сябраваў з ім і прысвяціў даследчыку беларускай літаратуры свой верш, напісаны 24 мая 1967 года, упершыню апублікаваны ў кнізе «Мая Іліяда»:

*Па-над шчыраю Шчарай,*
*над шчодраю Шчарай,*
*Па-над плынню чырвонай*
*і рыжай травой*
*Плачуць чорныя цені на фоне*
*пажару,*
*Моляць кані*
*аб кроплі вады дажджавой.*
*Майскі дзень, засынаючы,*
*сніць аб світанні,*
*І ў цішы, чорным ценем*
*на стужцы зары,*
*Моляць белыя, белыя,*
*белыя кані,*
*Плачам думаюць з небам*
*сябе памірыць.*
*І плывуць нашы*
*ў зарыва адплываюць,*
*І ў імгле, той,*
*што скончыцца ўсё-такі днём,*
*Верыць можна ў зару і святло,*
*што чакаюць*
*Нават там, за апошнім*
*дубовым крыжом.*
*Можна верыць. А жыць?*
*Як там жыці, о дружа,*
*Калі ведаць і там,*
*што бяжыць збажына,*
*Што барвее на поплаве*
*дзікая ружа,*
*Шчыра плешча — без нас,*
*кані плачуць — без нас?*

Плачуць кані... Плачуць па Міколу Грынчыку, які пражыў 76 гадоў. Плачуць яны і па Уладзіміру Караткевічу, жыццёвы шлях якога быў яшчэ карацейшы. Нам жа застаецца жыць. Нават дзеля таго ўжо, каб памятаць пра гэтых выдатных творцаў, кожны з якіх пакінуў свой след у літаратуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**




# Вачыма анёла

**Наталля ХАРТАНОВІЧ**

XXI стагоддзе... Час інавацый, інтэрнэту. Цяпер наўрад ці прымусіш вучня малодшых класаў узяць і пачытаць якую-небудзь кнігу. Лепей даць цацку ў рукі і зрабіць выгляд, што так і патрэбна выхоўваць... Але ж ці навучаць гэтыя цацкі чалавечнасці?.. А ці спрабавалі вы знайсці ў сваім раскладзе, у сваім шчыльным графіку некалькі гадзін, каб проста сесці і пачытаць разам з вашым дзіцём? А вы паспрабуйце. І раю пачаць з кнігі Валерыя Кастручына "Лясное дзіця". Яна нагадае пра ўласнае маленства, свавольствы, дапаможа быць з вашым малым на адной хвалі.

Галоўным героем выдатнай кнігі для дзяцей з'яўляецца сам аўтар, а дакладней, аўтар у мінулым, зусім яшчэ маленькі і няспрактыкаваны жыхар гэтай планеты. Ён паступова адкрывае для сябе велізарны і казачны навакольны свет, свет жывой прыроды. Хлопчык весела распавядае пра свае прыгоды ў свеце дзяцінства, радуецца і засмучаецца, прыходзіць у захапленне, спрачаецца, разважае. Падчас сваіх даследаванняў дзіця падарожнічае ўнутры і звонку дома, глядзіць па баках, слухае размовы дарослых людзей, усёй душой убірае ў сябе жыццё. Думаю, не толькі дзецям, але і многім бацькам кніга прыйдзецца да душы. Яна — пра нас з вамі...

Кожны апавед — гісторыя, якая вучыць шанаваць, берагчы, любіць прыроду, навакольнае асяроддзе. Апавяданні даюць зразумець, наколькі тонкая мяжа паміж прыродай і душой чалавека. Дрэнныя ўчынкі герояў эмацыянальна афарбаваныя, дзіця адразу зразумее, калі галоўны герой паступіў сапраўды непрыгожа, і засвоіць, што так нельга рабіць.

Але кніга вучыць і бацькоў, напрыклад, не муштраваць дзяцей, часцей дараваць дробныя бяскрыўдныя свавольствы.

Мастак Віталь Дударэнка аздобіў апавяданні выдатнымі малюнкамі — радаснымі і сонечнымі. Яны з'яўляюцца як бы працягам сюжэта, зліваючыся з тэкстам у адно цэлае.

Кніга «Лясное дзіця», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», стане выдатным падарункам для хлопчыкаў і дзяўчынак. І ўсё ж я раю і дарослым прачытаць гэты твор і знайсці ў ім нешта сваё. Я знайшла.

Усведамленне, што прырода — гэта дар, які мы проста абавязаны берагчы, прыйшло да мяне ў дзяцінстве. Але я, прачытаўшы гэтыя немудрагелістыя апавяданні, вызначыла для сябе галоўнае: успаміны пра дзяцінства і мары не сцерці, бо гэта — самае дарагое ў жыцці. І час ад часу ўсё ж патрэбна глядзець на свет вачыма анёла.

Дзякуй за гэты напамін Валерыю Кастручыну...

# ...І простасць разумення свету

Быць жанчынай — значыць жыць інтуіцыяй, верай, якой доказаў не патрэбна. Гэта як вера ў Бога. Адно толькі: жанчына можа верыць у што заўгодна. Аргументацыя тут марная: веру — і ўсё. І як ні дзіўна, адно гэта можа змяніць свет — так сцвярджае Раіса Баравікова ў кнізе для жанчын і пра жанчын «Кава для дамавіка» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»).

**Алена МІКУС**

Зборнік сэнсава складаецца з дзвюх частак. Мая жаночая алагічнасць узнялася пасля прачытання кнігі, і гэта прымушае гаварыць спачатку пра другую састаўляючую кнігі — аповесць «Чорны вецер». Калі вы любіце жаночую літаратуру, гэты тэкст, безумоўна, для вас. Класічная гісторыя няшчаснай сіраты Манечкі Праневіч, якая бярэ пачатак ад радавой кары і заканчваецца чуллівым хэпі-эндам. «Ты не сірата, Маня!» — напрыканцы твора гучыць як пераможны кліч, лозунг, у якім доўгачаканае пазбаўленне ад пакут радавога пракляцця. Аповесць выразна і проста адлюстроўвае ўяўленне пра тое, як у свеце працуе раўнавага добрага і ліхога. Прадзед Манечкі Косцік Бузевіч абрабаваў заможную сям'ю. Зрабіў гэта нахабна, жорстка, за што яго нашчадкі былі пакараны, а род урэшце звёўся. Залатыя царскія манеты, здабытыя несправядлівым шляхам, не прынеслі шчасця. Маленькую Манечку Праневіч пакінулі ў дзіцячым доме, яна доўга пакутавала з-за свайго сіроцкага лёсу. Аднак вырасла добрай, разумнай, самастойна паступіла ва ўніверсітэт, не прэтэндавала на чужое. У выніку ёй і нечаканая спадчына прыйшла, і родны бацька знайшоўся, у якога іншых нашчадкаў не было.

Ва ўсім апісаным ёсць жаночая прастасць разумення свету: гадаваць дзяцей, быць чулай, цярплівай — гэта добра, а здраджваць, рабаваць, адмаўляцца ад дзіцёнка — кепска, за гэта абавязкова кара будзе. Чалавечнасць жа, наадварот, рана ці позна будзе ўзнагароджана шчасцем.

Лінія апавядання твора выбудавана роўна, сродкамі рэалістычнага пісьма, сюжэт развіваецца паслядоўна і прадказальна, сачыць за ім лёгка і цікава. Рэкамендуецца чытаць пасля няпростага будзённага дня, каб адключыцца ад праблем і клопатаў. Псіхатэрапеўтычны эфект на некалькі вечароў гарантаваны.

У параўнанні з аповесцю «Чорны вецер» апавяданні кнігі прадстаўляюць абсалютна адрозную мастацкую рэальнасць. Напрошваецца нават жаданне сказаць, што аповесць і апавяданні — гэта дзве кнігі пад адной вокладкай. Хаця яны таксама належаць да жаночай літаратуры. Але ў дадзеным выпадку гэта літаратура канцэптуальная, што адразу надае творам цікавых мастацкіх нюансаў. Менавіта пра апавяданні зборніка можна сказаць, што яны напісаны ў плыні псіхалагічнай фантастыкі.

Канцэптуальнасць гэтых тэкстаў заключана ў тым, што тут Раіса Баравікова робіць рэальнасцю тое, пра што жанчына толькі фантазіруе, у што верыць, пра што марыць. Яна разгортвае падзеі ў паралелі сучаснаму часу і наяўнай прасторы. Найчасцей стварае гісторыі, у якіх апісвае каханне, якое жыве выключна ў багатым жаночым уяўленні. Прычым унутраны свет пераходзіць у знешнюю рэальнасць — і яна становіцца фантастычнай.

Дык у што, згодна з версіяй Раісы Баравіковай, верыць жанчына?

Напрыклад, у тое, што трансплантаванае сэрца і ў чужым целе перажывае свае былыя пачуцці («Радасці і пакуты чужога сэрца»). І няхай навука сцвярджае, што перасаджаны орган — адно толькі орган, які выключна ажыццяўляе функцыю ў




іншым целе, жанчына верыць, што гэта не так: сэрца адчувае. І вось гэтае вельмі характэрнае для нас уяўленне пісьменніца пераносіць у жывую рэальнасць. Так узнікае аповед пра Таццяну Адамаўну, якая пасля трансплантацыі нечакана моцна, будучы замужняй дамай, пачынае кахаць чужога мужчыну. Яна не разумее свайго пачуцця да таго моманту, пакуль не высвятляецца, што аб'ект кахання — муж уладальніцы трансплантаванага сэрца. Атрымліваецца фантастычна, захапляльна, інтрыгуюча і вельмі эмацыянальна.

Жанчына верыць у наканаванасць лёсу («Аператар лёсаў», «Каля берагоў Аўстраліі»). У апавяданні «Каля берагоў Аўстраліі» гэта наканаванасць звязана з каханнем і смерцю. Ігар Апанасавіч хоча выправіць сваю памылку і быць з Вікай, якая з'явілася першым сапраўдным захапленнем героя і прызначана яму лёсам. У аднойленых праз дзесяцігоддзі адносінах акадэмік Халадневіч нарэшце становіцца шчаслівым. Гэта прыносіць яму рэалізацыю патэнцыялу і сусветнае навуковае прызнанне. Аднак на вяршыні сваёй славы герой атрымлівае нечаканую вестку пра аўтамабільную аварыю, у якую трапляе каханая. Такім чынам, у гісторыі працуе жаночае ўяўленне пра тое, што лёс кіруе не толькі шчасцем, але і трагедыяй.

Жанчыне ўласціва моцная вера: галоўнае — знайсці свой Лёс у асобе мужчыны, які ўяўляецца другой паловай, у тое, што сапраўдны Адзіны недзе ёсць, што толькі побач з ім усё зменіцца, будзе шчасце, якое — у ціхай гавані закахансці («Кава для дамавіка», «Каля берагоў Аўстраліі», «Метэарытнае жаданне»).

Жанчына больш за мужчыну верыць у звышнатуральных істот («Гальшанскі трохкутнік», «Кава для дамавіка», «Гульня ў хованкі»). Яна ўпэўнена, што моц яе любові і веры можа пераадолець самую цяжкую хваробу («Вока Сусвету»), здольна фантазіраваць пра намаляванага на партрэце мужчыну і нават развіваць з ім любоўны раман («Ты, я і Валодзя»). Свет жанчыны, калі яго раскрыць паўней, літаральна сатканы з фантастычнага. Таму што мы створаны, не будучы ўцягнутымі ў вір працы, УЯЎЛЯЦЬ. «Гэтыя кветкі не смяюцца», — называе адно са сваіх апавяданняў Раіса Баравікова. І мы — жаночая аўдыторыя яе кнігі — адразу малюем вобраз усмешлівых кветак. Для нас гэта проста. А толькі пасля ўключаем логіку: няўжо ёсць такія кветкі, якія смяюцца?

Апавяданні зборніка рэкамендаваны для тых, хто хоча ведаць, што можа быць, калі фантазіі ўвасабляюцца ў жыццё.

Чытаць мужчынам пажадана. Жанчынам — абавязкова. Для таго, каб яшчэ раз больш шчыльна судакрануцца са сваёй жаночай сутнасцю.

# Словаклад для творчых людзей

Часцяком мне і маім калегам тэлефануюць настаўнікі, рэдактары, журналісты з пытаннямі накшталт: «Якія сінонімы магчыма ўжыць да слоў *акцёр*, *маразільнік*, *прамоўца*? Ці магчыма пакінуць у тэксце словы *какетаваць* замест *какетнічаць*, *газетнік* замест *прадавец газет*, *ліхасловіць* замест *зласловіць*? Як перакласці на беларускую мову рускамоўныя *Благовещенье*, *блаженный*, *благодатный*, *далекоидущий*, *преследователь*?»

І калі раней даводзілася адказы суправаджаць каментарыем, што асобныя варыянты не фіксуюцца сучаснымі слоўнікамі, то сёння кожны самастойна можа зверыць сваё моўнае чуццё або ўзбагаціць свой слоўнікавы запас, калі разгорне «Словаклад» слыннага мовазнаўца, рэдактара Алеся Каўруса.

Слоўнік, які аўтар рыхтаваў не адно дзесяцігоддзе і які прайшоў першую лексікаграфічную апрабацыю на старонках часопіса «Роднае слова» (1998 — 2005), атрымаўся надзвычай актуальным, карысным, а самае галоўнае блізкім па духу, наскім, родным, дарагім і мілым. Бо сабраная ў ім рукой вопытнага мовадбайцы лексіка напоўніцу адлюстроўвае самабытнасць і спецыфіку беларускай мовы, абвяргае ганебнае сцвярджэнне, што наша мова не мае перспектыў для развіцця.

Вучні і настаўнікі, рэдактары, карэктары, аўтары знойдуць у даведніку тое, чаго іншы раз не хапае, каб выразіць думку лаканічна, зразумела і пабеларуску:

Мілагучныя прыметнікі і назоўнікі, якім у рускай мове адпавядаюць дзеепрыметнікавыя формы з суфіксамі *–ущ-*, *-ющ-*, *-ащ-*, *-ящ-*, *-ем-*, *-им-*, *-вш-*, *-ш-* : *гнятлівы* (рус. гнетущий), *вабкі* (притягивающий), *моўца, размоўца* (говорящий), *накіроўчы* (направляющий) *неіржаўкі* (нержавеющий), *рассмяяны* (рассмеявшийся), *шанаваны* (уважаемый), *ранлівы* (ранимый); дзеясловы, назоўнікі, дзеепрыметнікі без суфікса *–ір-* (*-ыр-*): *бамбардаваць, бамбоўка* (замест бамбардзіраваць, бамбардзіроўка), *каментаванне, каментаваць* (каменціраванне, каменціраваць), *канкураваць* (канкурыраваць), *карэктаваць* (карэкціраваць), *лідараваць* (лідзіраваць), *шакаваны* (шакіраваны);

Гаваркія, псіхалагічна камфортныя сінонімы да іншамоўных і сваіх слоў: *відачын, відачынец* (акцёр), *вучэльня, вучыльня* (вучылішча), *выбітны* (выдатны), *вымога* (патрабаванне), *высакалюбны* (высакародны), *гасцёўня* (гасціная), *гасцільня* (гасцініца), *заплечнік* (рэчмяшок), *засня, каптур* (абажур), *запросіны* (запрашэнне), *зважай* (смірна), *калгасізацыя* (калектывізацыя), *ліхасловіць* (зласловіць), *лядоўнік* (маразільнік), *лятак* (самалёт), *народзіны* (нараджэнне), *незажыты* (незагоены), *вітальня, прыходня* (пярэдні пакой), *суразмоўе* (размова, дыялог), *шапік* (кіёск), *шамрэць* (блішчэць);

Трапныя аднаслоўныя адпаведнікі да апісальных выразаў і зваротаў: *грыбазбір* (той, хто збірае грыбы), *застойнік* (той, хто не здольны да развіцця, удасканалення), *збеганы* (які стаміўся, змарыўся бегаючы), *невяртанец, невяртальнік* (той, хто не вярнуўся на радзіму, застаўся жыць у чужой краіне), *нядзелькаваць* (святкаваць нядзелю), *перабіра* (той, хто пераборлівы да яды), *праўдамоўца* (той, хто гаворыць праўдзіва, адкрыта), *сумнаслынны* (які пакінуў пасля сябе сумную, нядобрую памяць), *провід* (найвышэйшая (боская) воля, найвышэйшая (боская) моц).

Даследчыкі-мовазнаўцы, маючы пад рукой гэтае выданне, змогуць прасачыць і ўбачыць шляхі папаўнення асобных лексіка-семантычных груп. Напрыклад, пры складанні беларускамоўнага слоўніка выдавецкіх тэрмінаў варта будзе звярнуць увагу на словы *асобнік* (экзэмпляр), *аповед* (апавяданне), *аўтарка* (*жан.* да аўтар), *афішка* (лістоўка, улётка), *бачына* (старонка кнігі), *газетнік* (прадавец газет), *друкаваннік* (той, хто друкуе), *друкарка* (пішучая машынка), *зніжка* (зніжэнне платы, цаны), *кнігар* (той, хто займаецца выпускам і збытам кніг), *кніжня* (кніжная шафа), *кніжніца* (бібліятэка), *купюрнік* (той, хто любіць купюры ў чыім-н. тэксце), *машынапіска* (друкарская машына), *праваднік* (даведачнае выданне, якое змяшчае неабходныя звесткі для паездкі, падарожжа).




Здзіўляе і адначасова захапляе працаздольнасць, руплівасць, уважлівасць аўтара «Словакладу», яго імкненне быць аб'ектыўным і перакаанаўчым. Пра гэта сведчыць вялікі аб'ём фактычнага матэрыялу, які давялося прааналізаваць даследчыку. Па нашых падліках гэта каля 300 аўтараў, сярод якіх не толькі пісьменнікі розных пакаленняў (М. Багдановіч, У. Дубоўка, Я. Колас, Я. Купала, М. Лужанін, І. Шамякін, У. Караткевіч, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, Я. Янішчыц і іншыя), але і

*Каўрус, А. Словаклад: слоўнік адметнай лексікі. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 328 с.*

літаратуразнаўцы (М. Арочка, Д. Бугаёў, Р. Бярозкін, П. Васючэнка, У. Калеснік, В. Рагойша, Г. Шупенька), мовазнаўцы (А. Аксамітаў, Я. Лёсік, А. Міхневіч, П. Сцяцко, Л. Шакун, Ф. Янкоўскі). Акрамя гэтага, матэрыялы энцыклапедычных даведнікаў, перакладныя творы, матэрыялы СМІ (часопісы «Беларусь», «Крыніца», «Маладосць», «Полымя», «Роднае слова», газеты «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета», «Мінская праўда» ды іншыя).

Пра адно толькі можна пашкадаваць: што не ва ўсіх словах у даведніку пазначаны націскныя склады. А. Каўрус тлумачыць такую акалічнасць тым, што і ў тэкстах, дзе яны выкарыстоўваліся, знак націску не стаяў. А гэта ўжо парада выдаўцам: будзьце ашчаднымі да кожнага новага, нязвыклага слоўца, удакладняйце ў пісьменнікаў іх адметнае гучанне і фіксуйце на пісьме дзеля адэкватнага ўспрымання і дакладнай акцэнталагічнай характарыстыкі.

**Уладзімір КУЛІКОВІЧ,**
**дацэнт кафедры рэдакцыйна-выдавецкіх тэхналогій БДТУ**

## Міхась ПАЗНЯКОЎ



### Матулі

*Незабыўная,*
*Мілая маці, матуля,*
*Маё сонца,*
*І песня мая, і вясна,*
*Да цябе ў дзіўных мроях*
*Заўсёды ляту я,*
*Ты на свеце*
*Святая-святая адна.*

*Праз дажджы,*
*І мароз, і завею, і спёку*
*Па жыцці*
*Ты і сёння вядзеш, як вяла.*
*І ў расстанні бясконцым*
*Штодзённа здалёку*
*Ахінаеш мяне*
*Жыццядайнаю сілай цяпла.*

*Я іду і нясу*
*Гэту сілу жывую*
*Па дарогах зямных*
*У няласкавы свет.*
*Прад табою навек*
*У дзівосным даўгу я, —*
*Аддаю яго людзям*
*Як твой залаты запавет.*

*О, мая цудадзейная*
*Маці, матуля,*
*Найудзячны паклон,*
*Дарагая, прымі,*
*Што святлістым, узнёслым*
*І чуйным жыву я,*
*Трапяткім, як раней, —*
*Прад Радзімай, табой і людзьмі.*

### Роднай вёсцы

*Як я прагнуў тваёй цішыні —*
*Адпачыць пасля тлумнай сталіцы,*
*Слухаць зноў, як раса тут звініць,*
*Як гасцінна гамоняць крыніцы.*

*Як жадаў я тваёй пекнаты —*
*Наталіцца пяшчотай святою,*
*Што струменяць вяргіняў кусты,*
*Прычасціцца жывою вадою.*

*Як хацеў я тваіх асалод,*
*Што ў дзяцінстве рабілі шчаслівым,*
*Тых спакус, што дарыў агарод.*
*Шчодры сад медуніц і наліву.*

*А прыехаў — самотны, застыў*
*І з былым не знайшоў падабенства:*
*Крапівою і хмызам густым*
*Зарасла мая казка маленства.*

*Анямела, хоць сам замаўкай,*
*Пазірае пустымі вачамі…*
*О, калыска мая, не знікай,*
*Не выстуджвай душы скразнякамі.*

* * *

*Зноў кліча мяне пуцявіна*
*Да роднай зажуранай хаты,*
*Там дзесьці мая пупавіна —*
*Пад бэзам густым і бухматым.*

*Зноў птахам самотным да слёзаў*
*У кут дарагі пакрыляю,*
*Бацькі там мае між бярозаў*
*Пад жвірам цяжкім спачываюць.*

*Пытанняў не трэба мне дзіўных:*
*Чаму, ці надоўга? Бо, мусіць,*
*І сам адказаць я бяссільны,*
*Калі мяне край мой адпусціць.*

* * *

*Салоўка, ластавачка, буслік —*
*Гудзе, спявае родны ранак,*
*Нібыта разбудзіў ён гуслі*
*І сонцам сыпануў з вагранак.*

*Рамонкаў зыркія пялёсткі*
*Кранаюць звонкай белізною —*
*Душа маёй радзімай вёскі*
*Пяшчотай дзеліцца са мною.*

*І брыльянцістаю сцяжынай*
*Вядзе ў чароўнае дзяцінства,*
*А мне з далёкаю святыняй*
*Так мала бачыцца адзінства.*

*Я тут людзей не сустракаю,*
*І гушчаром двары загуслі.*
*Са мною толькі размаўляюць*
*Салоўка, ластавачка, буслік…*

* * *

*Старую грушу спілавалі,*
*Яе садзіў на радасць тата.*
*Яна была заўсёды рада,*
*Калі мы грушы смачна рвалі,*

*Калі абкопвалі, бялілі,*
*Вясной узносілі шпакоўню.*
*Быў сад наш музыкай напоўнен —*
*Нібы званы, плады званілі.*

*Іду маўклівым, ціхім садам,*
*Настрой — нібыта абакралі.*
*Старую грушу спілавалі,*
*Яе садзіў на радасць тата.*


Фота Анеі Сёдро

## Алесь ЖЫГУНОЎ



### Аўтапрысвячэнне

*Калі ў лугах звініць каса*
*І срэбрабуйная раса*
*На дол імкліва ападае;*
*Калі адчуеш раптам сам,*
*Што фору можаш даць касцам,*
*Калі імпэт не пакідае, —*

*Тады кажы, што ты мужык.*
*І хоць ад вёскі ўжо адвык,*
*Яна заўжды цябе прывеціць.*
*Сустрэне міла родны кут,*
*І ўрэшце зразумееш тут,*
*Што шчасце ёсць на белым свеце.*

***

*Ад Глыбокага да Шклова*
*На машыне — пяць гадзін.*
*На якой жа з двух радзім*
*Майго шчасцейка падкова?*

*Аблачынкі ў сіняве —*
*Час спяшаецца імклівы.*
*Калі я такі шчаслівы,*
*Можа, і падковы дзве?*

*Проста выпаў лёс такі*
*І ўвасобіўся у слове.*
*Землякі мае — у Шклове*
*І ў Глыбокім землякі.*

*А яны, нібы радня,*
*Тут і там — я ўсюды дома.*
*А пачуццяў глыбіня —*
*Ад Глыбокага, вядома.*

*Я сустрэчы з вамі рад,*
*Выспявае ў сэрцы слова.*
*А вачэй маіх пагляд*
*Чысты — гэта ўжо ад Шклова.*

***

*Ты пазвані мне з Белавежскай пушчы*
*Ў адзін з прыгожых самых вечароў,*
*Каб я паслухаў шум яе трывушчы,*
*І рык бадзёры волатаў зуброў,*

*І ў карабельных соснах ветру сола,*
*І перамовы велічных дуброў…*
*Ты пазвані, каб я пачуў твой голас,*
*Каб уявіў: шчаслівыя мы зноў.*

***

*Ад узросту нідзе ні дзецца —*
*Гэта ісціна ад жыцця.*
*Роўна-роўненька сэрца б'ецца,*
*Ну ні кроплі ў ім пачуцця.*

*А калісь біла так у скроні*
*Пад мелодыі салаўя.*
*Хтосьці другі ў пачуцця ў палоне,*
*Хтосьці іншы, але не я.*

*І на сэрцы так лёгка-лёгка:*
*Ані рэўнасці, ні любві.*
*Салавей, памаўчы, не цёхкай,*
*Ты ж у ноч мяне не заві.*

*І душу не трывож, прашу я,*
*У мінулым мая любоў —*
*Так нявесела напішу я,*
*Дай жа, Божа, праз шмат гадоў.*

*А сягоння ў вясны ў палоне.*
*Хай ляцяць, хай шумяць гады.*
*Упаду я ў твае далоні*
*І адчую, што малады.*

***

Браніславу Грамакоўскаму

*Разбудзі баян свой, Бронік,*
*Ці ў цябе ён для красы?*
*Я дастану свой гармонік —*
*І зазвоняць галасы.*

*І дынамікі эстрады*
*Мы забудзем хоць на міг.*
*Нашы мамы былі б рады,*
*Каб пачулі нас дваіх.*

*У запозненым дуэце*
*Першы ты, а я — другі.*
*У самотным гэтым свеце,*
*Можа, хопіць нам тугі?*

*Бо над Шклоўшчынай нябёсы*
*Патанулі ў васільках.*
*Як нам скардзіцца на лёс свой,*
*Калі музыка ў радках?!*

*Хай ляцяць над краем зыкі*
*Ад зары і да зары.*
*Хто мы? Шклоўскія музыкі,*
*Свайго краю песняры.*

## Ніна КАВАЛЁВА



### Векапомныя дні

Вось і яны. Ляжаць на вільготнай зямлі, нерухомыя, з пасінелымі тварамі.

**Міхась Лынькоў**

*Як вясёлкі агні*
*На прасторах жыцця,*
*Векапомныя дні*
*З небыцця, забыцця.*

*А куды ж я пайду,*
*Як не свецяць агні?*
*А каго ж паведу*
*У забытыя дні?*

*У далёкіх тых днях*
*Толькі страты мае,*
*Ды згараць у агнях*
*Памяць ім не дае.*

*Пакланюся тым дням,*
*Што аддасць небыццё.*
*Векапомным агням*
*Салютуе жыццё.*

### Айчына

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль…
Ты прабач. Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

**Максім Багдановіч**

*Вочы, як хвалі ільну.*
*Косы, як хвалі пшаніцы.*
*Маці такой ганарыцца.*
*Любы кахае адну.*
*Снежныя хвалі ўзняла*
*Перада мною Айчына.*
*Белая ўся, як жанчына,*
*Што у замужжа пайшла.*
*Можа, мой продак каваль*
*Выкаваў гэта азерца?*
*Вояў кальчугі, як шкельцы*
*Бачу у срэбнасці хваль.*
*Непагадзь не абміне*
*Лесу зялёныя хвалі.*
*Як жа яны прытулялі*
*Спеў салаўя і мяне?*
*Што мне Айчына дала —*
*Ў памяці ўсё, як на здымку,*
*Каб умясціла ў абдымку —*
*Моцна б яе абняла.*

### Памяці Максіма Гарэцкага

I

*Не толькі тая маці нам,*
*Што нарадзіла, узрасціла,*
*А тая родная сынам,*
*Чыя жыве ў іх моц і сіла.*

*Чые пякуцца мазалі,*
*Чые завуць палі і гоні…*
*Ты сын і горацкай зямлі,*
*З якой твае ўзляцелі коні.*

*Каб заіскрыла цемра-ноч,*
*Патрэбны моцныя падковы,*
*Ды не ляцець жыцця ўзбоч,*
*Дзе лёс лунае выпадковы.*

*А крочыць, дзе звініць ралля,*
*Дзе родзіць, б'е так трапна слова,*
*Калі майстэрствам каваля*
*На шчасце зроблена падкова.*

II

*У Багацькаўцы сягоння*
*Песні матчыны шчыруюць.*
*Сыне родны і народны,*
*Землякі цябе шануюць.*
*Не, таго не адбылося*
*На тваім шляху агністым,*
*Каб ты здрадзіў свайму лёсу,*
*Здрадзіў песні асабістай.*
*Ў час зняваг і знямогі*
*(Каты цешыліся ўволю)*
*Закавацы даў рукі, ногі,*
*Песню ж выпусціў на волю.*



Юры СТАНКЕВІЧ

# Чароўных кветак немаўля

*Апавяданне*

Вяртаючыся з чарговай камандзіроўкі, аўдытар Макарэвіч, адносна малады чалавек прыстойнага выгляду і саркастычнага складу характару, убачыў каля свайго пад'езда купку людзей. Былі сярод іх і знаёмыя, але яны чамусьці адводзілі вочы. Макарэвіч падышоў да суседзяў.

Яны расказалі, што прыкладна гадзіну таму з апошняга паверха іх дзевяціпавярховага дома зваліўся хлопец. Трапіў на клумбу і, магчыма, таму быў яшчэ жывы, калі прыехалі «хуткая» і міліцыя.

У ліфце Макарэвіча ашаламіла раптоўная думка. Клумба, на якую зваліўся незнаёмец, была якраз пад вокнамі яго кватэры на дзявятым паверсе.

Аўдытар Макарэвіч адчыніў дзверы і яшчэ з парога пачуў галасы. У пакоі былі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным: брыгада крымінальнага вышуку, як яны адрэкамендаваліся. Двое з іх, маладзейшыя, сядзелі ў крэслах, а трэці, старэйшы, рухаўся ў невялікай свабоднай прасторы паміж кніжнымі паліцамі, сталом і тэлевізарам у куце. Жонка, дагледжаная і вабная сталай прыгажосцю, уласцівай здаровым жанчынам, якія няўхільна сочаць за сабой, сядзела на канапе. Яна працавала ў гандлі — загадчыцай невялікай харчовай крамы з сістэмы «Еўраопту». Дачка, як ведаў Макарэвіч, трэці тыдзень адпачывала ў прыгарадным летнім спартыўным лагеры для дзяцей.

— Маё прозвішча Даўгапалец — капітан райаддзела міліцыі, — прадставіўся высокі мужчына і дадаў: — З вашага балкона зваліўся чалавек. Па словах…, — ён кіўнуў галавой на гаспадыню кватэры, — гэты мужчына спускаўся зверху, магчыма, з даху, і сарваўся.

— Няўжо? — здзівіўся аўдытар Макарэвіч, прынёс яшчэ адно крэсла і сеў у яго сам. — Ай-яй-яй! Чаму ж ён так дрэнна лётаў? І што яму было трэба на даху? Гуляў у Карлсана?

Капітан райаддзела на імгненне спыніўся і з цікавасцю затрымаў позірк на гаспадару кватэры.

— Пры ім знайшлі паперу. Прозвішча — Дзядко Алег Іванавіч, працаваў інструктарам па фізкультуры. Вам гэта штонебудзь гаворыць?

— А вам? — спытаў Макарэвіч і дадаў: — Можа, злодзей? Фізкультурнікі — яны амаль усе такія.

— Высветлім, — сказаў капітан Даўгапалец. — Яго пакуль што аперыруюць.

Двое маладых супрацоўнікаў пераглянуліся. Па-ранейшаму рухаючыся па пакоі, іх начальнік кіўнуў аднаму:

— Пазвані ў бальніцу.

Той пайшоў у суседні пакой, дзе быў тэлефон. Дзверы за сабой ён прычыніў, а калі выйшаў, то нешта прашаптаў начальніку на вуха.

— Так, — сказаў капітан Даўгапалец, — вось гэта ўжо горача!

Малодшыя супрацоўнікі зноў пераглянуліся, і той, што хадзіў званіць, усміхнуўся. Яны, як па камандзе, усталі і пайшлі да выхада.

— Што ён сказаў там, у бальніцы? — затрымаў Макарэвіч іх начальніка. — Чакайце, капітан, спадары! Куды вы цягу далі?

— Нічога істотнага, — сказаў капітан Даўгапалец, зноў зацікаўлена зірнуў на гаспадара і дзіўнавата фыркнуў.

Яны пайшлі. Аўдытар Макарэвіч зачыніў за імі дзверы і вярнуўся назад. Жонка ўжо ляжала на канапе, прыціскаючы да лба мокры ручнік. Макарэвіч зноў сеў у крэсла.

— Можа, растлумачыш, чаму з балкона лётаюць мужыкі?

— Ты ведаеш столькі, колькі і я, — адказала тая.

— Ты бачыла таго летуна? — спытаў ён.

— Не. Яго павезлі ў бальніцу. І кінь свае жарты.

Яны памаўчалі.

— Я спушчуся ўніз, — сказаў аўдытар Макарэвіч.

— Паесці зрабі сам.

Есці ён так і не стаў, а спусціўся ўніз і агледзеўся. Ля злашчаснай клумбы нікога ўжо не было, у вокнах паўсюдна гарэла святло, неба ў россыпе зорак цямнела над галавой. Было цёпла.

Аўдытар Макарэвіч падышоў да клумбы. У святле ад акна ён убачыў прымятыя кветкі і глыбокую ўвагнутасць на месцы падзення цела. Макарэвіч зірнуў угару, на вокны сваёй кватэры, і зноў задумаўся над тым, што гэты незнаёмы малады Дзядко рабіў там, на даху дома, а потым на яго балконе.

«А што, калі зараз паехаць у бальніцу?» — Макарэвіч памятаў, што бальніца не так далёка. Там аднойчы выдалялі гланды дачцэ. «А можа, яго павезлі кудынебудзь у іншую бальніцу?» — падумаў ён. — Не, не павінны, бо яны, пэўна, спяшаліся, а бліжэйшая — якраз праз квартал».

***

Бальніца ўяўляла сабой некалькі шматпавярховых будынкаў. Макарэвіч знайшоў хірургічны корпус і апынуўся ў ярка асветленым прыёмным пакоі. Некалькі чалавек сядзелі ў крэслах, кульгаў на мыліцах няголены мужчына з загіпсаванай нагой, прабеглі ў дзверы дзве дзяўчыны ў белых халатах. За шклянай перагародкай сядзела жанчына, корпаючыся у паперах.

Аўдытар Макарэвіч пачаў хадзіць узад-уперад. Жанчына за перагародкай падняла галаву.

— Што вы бегаеце, як на бульвары? — не ўпадабала яна. — Па якой справе?

Макарэвіч падышоў бліжэй.

— Да вас прывезлі мужчыну. Фізкультурніка. Ён зваліўся з даху. Хачу даведацца, як ён сябе адчувае. Жывы ці, можа, склеіўся?

— Выйдзе старшая медсястра — тады пра ўсё і даведаецеся. І выбірайце словы! Што яшчэ за вульгарызмы?!

Макарэвіч паціснуў плячыма. «Можа, пайсці адсюль?» — падумаў ён.

Але пайсці не выпадала. Насустрач яму з лаўкі падняўся малады хлопец, высокі, чарнявы, з шырокім падцiснутым ротам, у трыкатажнай майцы. На майцы было нешта напісана лацінскімі літарамі. Аўдытар Макарэвіч прыгледзеўся і прачытаў: LOVE IS A FLOWERS' BABY* . Хлопец выцягнуў з кішэні пачак цыгарэт і паказаў Макарэвічу на дзверы.

— Выйдзем!

У святле ліхтара хлопец чыркнуў запалкай, прагна зацягнуўся і паглядзеў Макарэвічу ў твар.

— Я брат Алега, — сказаў хлопец і сплюнуў пад ногі. — Пазванілі вось, добра — я да тэлефона падышоў, маці нічога не сказаў, а сам сюды.

— А, дык вы брат таго фізкультурніка, — здагадаўся Макарэвіч.

— А вы хто? — спытаў хлопец.

— Жан Както.

— Ды ты што гоніш? — западозрыў той нейкі таямнічы, не асэнсаваны ім здзек.

— Ён зваліўся з майго балкона, — ветліва патлумачыў Макарэвіч.

Дзядко-малодшы з цяжкасцю разважаў пра нешта. Змена



Малюнак Вікенція Пузанкевіча

розных пачуццяў адлюстроўвалася на яго невялічкім, нервовым тварыку.

— Хто яго загубіў? Хто?! — раптам істэрычна закрычаў ён, падскочыў да Макарэвіча і схапіў яго за каўнер курткі.

— Ты што, дурыла, звар'яцеў? — спытаў Макарэвіч і аддзёр агромністую далонь.

— За жонкай трэба было больш глядзець, вось што! — зашыпеў прама яму ў твар Дзядко-малодшы. — Такога хлопца загубіла… Лярва! — ён вылаяўся.

Аўдытар Макарэвіч пачаў асэнсоўваць інфармацыю.

— Ану, ціха! — прыкрыкнуў ён. — Лямантуеш, як баба!

— Гэта я баба? — завішчаў Дзядко-малодшы і зноў кінуўся на яго.

Макарэвіч разлічана (калісьці баксіраваў) стукнуў яго, і даволі моцна. Дзядко-малодшы пахіснуўся, ледзь не ўпаў і раптам заплакаў.

— Ну, супакойся, дурыла, — памяркоўна сказаў яму Макарэвіч. — Пайшлі сядзем, абмяркуем, чаму твой брат паехаў з даху.

Свяцілі ліхтары. На бальнічным двары было пуста. Ён адвёў Дзядко-малодшага да лаўкі.

— Гавары, — загадаў Макарэвіч.

— Ён пакахаў яе, разумееш? Ну, брат. Працаваў у спартыўным лагеры, там, дзе зараз ваша дачка. Там яны і пазнаёміліся. А цяпер яна яму нават дзверы не адчыніла, вось ён і палез праз дах…

— Навошта ж хавацца? — спытаў Макарэвіч. — Сказалі б прама, і не было б у клумбе ямы. — Ён усміхнуўся з рыфмы.

— Я з ім перадусім гаварыў, — сказаў Дзядко-малодшы. — Хіба ж ён мяне паслухае? Ён старэйшы, ён мне за бацьку.

— Хм, нешта я не разумею, хто там каго кахаў, — Макарэвіч падняўся з лаўкі. — Пайду, — сказаў ён. — Каханне — вялікая сіла, але ўсё лухта, мой юны сябар. І гэта таксама. З нябёс часам ляцяць на клумбы чароўных кветак немаўля… ха-ха…

— Каб толькі жыць застаўся, — тужліва заенчыў Дзядко-малодшы. — А што я маці скажу? Га? Ды што ты муціш усё?

— Бывай, дурыла, — сказаў Макарэвіч.

— Што рабіць будзеш? — спытаў Дзядко-малодшы.

Макарэвіч паціснуў плячыма.

Раптам у прыёмным пакоі ляпнулі дзверы, і на падворак выбегла медсястра.

— Пастойце, малады люд! Хто тут брат Дзядко, таго, які цяпер у аперацыйнай?

— Ну, я, — пасунуўся да яе Дзядко-малодшы. — Што, што здарылася? Ён памёр?

— Яму робяць аперацыю. Але не хапіла крыві. Рэдкая група. У вас якая група? Вы ведаеце сваю кроў? Павінна быць адзнака ў пашпарце.

— Ведаю, — сказаў Дзядко-малодшы. — Мне хутка ў армію. Другая, эр эф плюс.

— Не, не тое. А вы хто? — звярнулася яна да Макарэвіча. — Таксама брат?

— Накшталт таго, — крыва ўсміхнуўся Макарэвіч.

— А ў вас якая група?

— Чацвёртая, рэзус плюс.

— Вы дакладна ведаеце? Упэўнены? Хадземце са мной. Хутчэй. Калі яму зараз не пераліць кроў — ён сканае. Кроў хоць чыстая? На дакладныя аналізы няма часу.

— Не хвалюйцеся, чысцей не бывае.

***

Праз нейкі час Макарэвіч выйшаў з прыёмнага пакоя. Яго ўгаворвалі паляжаць пару гадзін, але ён адмовіўся.

— Нічога, дабяруся.

Дзядко-малодшы па-ранейшаму чакаў і адразу кінуўся да яго.

— Ну, як? Што там? — нервова ўхапіў ён Макарэвіча за крысо вятроўкі.

Той патэтычна ўзняў рукі.

— Жадаю шчасця вам, — сказаў Макарэвіч, — братам, каханым усім, звар'яцелым... прабач, людзям…

Ён пайшоў пешшу. Па дарозе Макарэвіч успомніў Леначку з іх аб'яднання, якая яму сімпатызавала і папросту дзялілася з ім сваім жыццёвым вопытам. Вопыт яе зводзіўся да аднаго. «У кожнай жанчыны павінна быць тры мужчыны, — прасоўвала яна сваю ідэю. — Адзін — для цела, другі — для грошай, а трэці — для душы». Макарэвіч цяпер успомніў і ўсміхнуўся, ідучы. Ён даўно не ўспрымаў жыццё ўсур'ёз.

Ліфт падняў яго на дзявяты паверх. Ён адчыніў дзверы ў кватэру, зайшоў і прыслухаўся. Потым знайшоў паўбутэлькі гарэлкі і выпіў прама з рыльца. «Прыход» адчувальны, — сказаў ён сам сабе. — Няблага «ўставіла» пасля крывапіўства. — Ён тэатральна ўзнёс рукі. — О, брат мой, брат мой!»

У спальні было ціха.

— Ты мне скажы, — разумеючы, што ўсё добра чуваць праз дзверы, спытаў ён жонку, — я ў цябе для чаго: для грошай, для цела ці для душы?

Ён пайшоў у пакойчык, які звычайна прапаноўвалі гасцям, расклаў крэсла-ложак, дастаў падушку, прасціradла. Зняў са сцяны свой партрэт у драўлянай рамцы — работу ягонага сябра, мастака-аматара. З карціны глядзеў на яго малады мужчына: лоб нізкі, нос доўгі, падбародак звычайны, вочы былі намаляваны старанна, але выраз іх быў нібы ў барана. Макарэвіч засмяяўся і шпурнуў партрэт у кут.

— Маё тут было цела, а заўтра адляцела, — сказаў ён.

***

Аўдытар Макарэвіч назаўтра з'ехаў з кватэры і пачаў жыць у Леначкі, якая нібыта ніколькі не здзівілася, што ён пайшоў ад жонкі. Ён неяк уладкаваўся і пакуль чакаў суда на развод, толькі зрэдку ўспамінаў свае ранейшае жыццё, кватэру на дзявятым паверсе, былую жонку. Некалькі разоў яму снілася дачка, а потым і яна перастала.

* Каханне — кветак немаўля (*англ.*).

# Барацьба за спадчыну як анекдот

«Беларускіх п'ес заўсёды было шмат, а вось сапраўднай драматургіі мала», — так ахарактарызаваў сітуацыю ў драматычным мастацтве Аляксей Дудараў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай святкаванню Дня тэатра ў сакавіку гэтага года. А можа, праблема не ў беларускіх драматургах, а ў рэпертуарнай палітыцы нашых тэатраў, нацэленых на бяспройгрышны прыбытак ад кідкіх заходніх і блізказамежных імёнаў? Ці нашым тэатрам сапраўды не хапае добрых твораў сучасных айчынных драматургаў?

**Таццяна АЎДОНІНА**

Сёння беларуская драматургія прадстаўлена ў асноўным гістарычнымі драмамі. А камедый як не было, так і няма. Няўжо не пішуць? Дык вось і не!

Іван Штэйнер вядомы як літаратуразнаўца, аўтар звыш трыццаці манаграфій. Яго творчасць як літаратурная крытыка добра асвятлялася на старонках «ЛіМа». У мінулым годзе пісалі пра яго першую п'есу, гістарычную камедыю «Спакушэнне Францыска Скарыны», якая была пастаўлена на сцэне Гомельскага тэатра. Цяпер дазвольце, паважаныя чытачы, расказаць пра спектакль, які ўбачыў святло рампы дзякуючы таму ж тандэму сутворцаў: камедыя-анекдот «Кот на лаўрах» у пастаноўцы рэжысёра Багдана Арлоўскага паводле аднайменнага вадэвіля Івана Штэйнера. Прэм'ера адбылася ў апошнія дні мая ў Гомельскім абласным драматычным тэатры.

Рэжысёр-пастаноўшчык Багдан Арлоўскі стварыў, здавалася б, драбязу — анекдот у адной дзеі, адыграны акцёрамі ў вадэвільнай манеры, якая прадугледжвае забаўляльную скіраванасць з займальнай інтрыгай і бытавым сюжэтам. Вядома, што вадэвіль — гэта адзін з відаў лёгкай камедыі, сюжэт якой заснаваны на анекдатычнай сітуацыі, а дзеянне суправаджаецца песнямі і танцамі.

Наогул, у спектаклі дамінуе эмацыянальная сутворчасць аўтара і рэжысёра: І. Штэйнер напісаў вадэвіль, у якім шмат музыкі, вершаў, танцаў; Б. Арлоўскі стварыў спектакль-анекдот, які складаецца з шаржавых замалёвак і не разбурае цэласнасць сюжэтнай лініі.

Згадаем фабулу п'есы. Чытаецца ўслых тастамент, згодна з якім у выпадку смерці нейкай Адэлі Збароўскай уся маёмасць пані завяшчаецца яе… «*любімаму кату Максіму, які, у адрозненне ад усіх прысутных, што сквапна ўслухоўваюцца ў гэтыя словы, любіў* [яе. — **Т. А.**] *проста так, без усялякай выгоды, не думаючы пра грошы і вілы*», а не бліжэйшым родзічам, і два зяці пачынаюць барацьбу за спадчыну цешчы. Апякункай ката прызначана ветурач, якая «*лячыла Максіма, даглядала яго*» і «*валодае ягонай мовай <…>, зможа разумець усе ягоныя жаданні <…> і наладзіць кантакт з людзьмі*». Зяці вырашаюць аб'яднацца, каб адабраць у ката Максіма тое, што, як яны лічаць, павінна належыць ім. У выніку з'яўляецца план, «*фантастычны, але рэальны*», які і становіцца цэнтрам далейшых дзеянняў, трэба «*зрабіць Максіма цалкам юрыдычнай асобай з адпаведнымі дакументамі і паперамі*». Для гэтага кату неабходна абзавесціся пасведчаннем аб нараджэнні, вайсковым білетам, дыпломам аб вышэйшай адукацыі, правамі на кіраванне аўтамабілем, ну яшчэ стаць членам партыі — і тады «*ён зможа не толькі аформіць тастамент, прыняць спадчыну, але і ўласнаручна весці свае справы і нават ажаніцца*» — так вучыць зяцёў Адэлі Збароўскай хітры Натарыус (акцёр А. Лаўрыновіч), зразумела, за вялікія грошы.

Для легалізацыі і сацыялізацыі Максіма былі задзейнічаны ўсе дзяржаўныя і недзяржаўныя структуры: ЗАГС, ДАІ, ВНУ, Саюз пісьменнікаў, партыйная ўстанова, а таксама сваха, варажбітка і інш. Зяці гатовыя да саперніцтва: адзін будзе спакушаць апякунку ката — і гэта лёгкая задача, «*бо баб разумных не бывае*», другі — спакушаць грамадскія інстытуты, якія «*падмануць прасцей, чым бабу*».

Кампазіцыйна гэты твор складаны. У ім дзве асноўныя канфліктныя лініі, якія разгортваюцца паралельна: хоць два зяці і аб'яднаныя агульнай ідэяй, але ў кожнага свая ідэя-фікс — грошы, якія яны збіраюцца дзяліць не па-братэрску і не па сумленні, а ўсё адразу і «мне аднаму». Хто ж выйграе ў гэтым нястрымным імкненні да грошай? Выніковы шлях да спадчыны — жаніцьба! Першы зяць жадае сам ажаніцца з Апякункай ката Максіма Пульхерыяй Фемістоклаўнай (выдатная роля актрысы Я. Канькавай), на якую «*сорак год ніхто не глядзеў*». Другі зяць вырашыў аддаць замуж за Максіма сваю дачку.

Героі, якія вядуць за сабой сюжэт, — два зяці. Проста зяці. Без імёнаў. Яны — прадстаўнікі розных сацыяльных пластоў: Першы (акцёр У. Цітоў) — сельскі інтэлігент, які спадзяецца на ўласную прыгажосць і амаль да канца спектакля аніяк не мяняецца знешне. Другі (акцёр У. Шчарбакоў) — тыповы селянін, які ўкладвае грошы не столькі ў развіццё сумеснай аферы, колькі ў свой імідж. Яго роля адрозніваецца дынамікай і мае іміджавае развіццё: падчас п'есы ён мяняе брудную фуфайку і кірзавыя боты на элегантны касцюм і модныя чаравікі. Знешнасць, безумоўна, можна выправіць, а вось з адукаванасцю (не блытаць з адукацыяй!) складаней: ні за грошы яе не купіш, ні на сала не абмяняеш. Таму даводзіцца малаадукаванаму Другому зяцю чытаць мудрагелістыя словы па паперцы. Гэта двайная іронія аўтара: вучоныя часам гавораць такімі штампамі, што простаму чалавеку і не вымавіць, не тое што запомніць і ўзгадаць!

*Вулічны кот з Італіі атрымаў у спадчыну 10 мільёнаў еўра. Усе свае зберажэнні адпісала яму паважаная сіньёра Марыя Асунта. Цяпер італьянскія дзяўчаты патрабуюць прыняць закон, які б дазволіў выходзіць замуж за катоў.*

**Паводле газеты «Комсомольская правда»**




Малюнак шаржа на ўяўнага навукоўца, прадстаўлены заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь Ю. Фейгіным, дакладна перадае жэставы партрэт самога аўтара п'есы: манера сядзець, важна адкінуўшыся на спінку крэсла, і трымаць у роце дужку акуляраў.

Нельга абмінуць і яшчэ адзін гумарыстычны шаржавы вобраз ад рэжысёра: у гармоніі з чароўнымі гукамі ўкраінскіх мелодый Супрацоўніца ЗАГСа (актрыса Т. Зміцюра) прадстаўлена ў выглядзе Юліі Цімашэнка — па пастаці, па манеры гаварыць, асабліва ж па яе адметнай касе-кароне вакол галавы.

Аднак шаржавасць выяў не перарастае ў тэатральнае крыўлянне, а прыцягвае сваёй камедыйнай псіхалогіяй, яскравым гумарам самога тэксту п'есы і сцэнічнага ўяўлення яе вобразаў. Нягледзячы на анекдатычнасць фабульнай сітуацыі і лубачны антураж, спектакль інтэлектуальна насычаны. У ім ёсць тое, што крытыкі звычайна называюць «сцэнічным паветрам»: адна падзея перацякае ў іншую, сюжэт не абрываецца і лагічная лінія не знікае.

Генеалагічнае дрэва рыцарскіх часоў, княжацкі тытул з гербам ды з партрэтамі шляхецкіх продкаў — усё гэта тэрмінова зробіць для Максіма Глінскага-Папялінскага Архіварыус-геральдык, ролю якога вельмі добра і лёгка сыграў Фёдар Іваноў, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, «сівая легенда» Гомельскага тэатра.

Сцэна з варожкай (актрыса А. Сакалова) — сцэнічная пародыя на канкурсантаў «Бітвы экстрасэнсаў»: чэрап, які блішчыць люстранымі кавалачкамі, імітуе вядомую ўзнагароду Бітвы — Сінюю Руку — і адначасова замяняе галоўны сімвал варажбітак — Крышталёвы Шар. Танец-пантаміма Варожкі з чэрапам і свечкамі разам з замовамі не столькі зачароўваюць, колькі весяляць сваёй парадыйнай скіраванасцю.

Б. Арлоўскі па-свойму інтэрпрэтаваў дзеючых асоб п'есы, пададзеных аўтарам як Ахова (акцёры М. Грышачкін і В. Дацэнка). У драматурга гэтыя персанажы — Ён і Яна — з'яўляюцца толькі ў сцэнах, якія адбываюцца ў ветклініцы. Рэжысёр выкарыстаў іх і для звязкі колавага сюжэта: Ён і Яна загадкавай выявай пачынаюць спектакль і гэтак жа таямніча знікаюць, завяршаючы яго. Спектакль пачынаецца пры зачыненай заслоне, згасае святло, гучыць «Вясельны марш» Ф. Мендэльсона. Справа на авансцэне павольна ўзнімаецца накрыўка каналізацыйнага люка, з якога вырываецца пякельнае полымя, створанае з дапамогай дым-машыны ў чырвоным падсвятленні. З люка вылазяць Ён і Яна — але не дыгеры, а, хутчэй, бамжы. Пасля сцэны чытання завяшчання Першы зяць наймае іх: «*Будзеце маімі вушамі і вачамі! Сачыце за катом!*» У якасці санітараў Ён і Яна ўладкоўваюцца ў ветэрынарную клініку. Яны і завяршаюць спектакль: закрываючы заслону, засмучаныя, таму што абяцанае лепшае жыццё не наступіла, знікаюць у сутарэнні.

Ну і, як вядзецца, дзве лыжкі дзёгцю! Сцэнічны час падаецца месцамі зацягнутым, але гэта не з-за шматслоўнасці тэксту, а з-за «кашы ў роце» некаторых акцёраў, якім — і не толькі ім! — трэба працаваць над тэхнікай прамовы. Невыразная артыкуляцыя абцяжарвае ўспрыманне і разуменне тэксту сцэнічнага дзеяння.

Мастацка-пастановачная частка, афармленне куліс вытрымана ў лубачным стылі і тым самым пацвярджае думку пра народны анекдот і несур'ёзнасць дзеяння. Паводле рэжысёрскай задумы, сцэна нябачна падзелена на дзве часткі: злева заўсёды «працуе» Першы зяць, справа — Другі. Адпавядаюць гэтаму падзелу і выкананыя ў стылі вясковага прымітывізму (у тэхніцы *hand made*) дэкарацыі: дзве хаты і дзве коткі — чорная і рудая, якія сядзяць як бы на стрэхах. Калі заслона ўздымаецца, то на задніку сцэны мы бачым яшчэ адну котку.

Дзве хаты — два зяці. Гэта зразумела. Адзін кот у цэнтры як галоўны пазасцэнічны герой — само сабою зразумела. Але якую сэнсавую нагрузку ў спектаклі нясуць два каты на бакавінах? Магчыма, гэта былі варыянты малюнка Максіма, але не вельмі ўдалыя, і іх вырашылі задзейнічаць па прынцыпе «не прападаць жа дабру».

Галоўны герой усёй гэтай катавасіі, Максім, — пазасцэнічны персанаж, выява якога цягам усяго дзеяння знаходзіцца на задніку ў глыбіні сцэны. Менавіта вакол яго і закручваецца інтрыга, кіпяць страсці. У Максіма ёсць свой «тэкст», які суправаджае змену сцэнічных з'яў. Яго лейтматыў складаецца з трох кароткіх элементаў: *удар гонга — гучнае «мяў» — два такты арганнай музыкі*. Не хапае візуальнага зернейка: можа, звычайныя шкляныя вочы замяніць зіготкімі ліхтарыкамі, каб хітра падміргвалі, нібы гаворачы, што ўсё дзеянне, якое адбываецца, проста жарт, анекдот… Але анекдоты з жыцця бяруцца!..

У творы Івана Штэйнера сатыра прыхаваная: яго п'еса — гэта сапраўды жарт. Але ёсць тут актуальная іронія, якой прасякнуты дыялогі Другога зяця з Супрацоўнікам ДАІ (акцёр В. Беднашэя). З Рэктарам прыватнай ВНУ Другі зяць дамаўляецца пра тое, каб зрабіць для Максіма Глінскага-Папялінскага дыплом аб вышэйшай адукацыі ўсё роўна якой спецыялізацыі, хоць гуманітарнай, «*якая нікому ў наш час непатрэбна*». Здаецца, жарт, але…

Тыповасць сітуацыі даказваць не трэба — «арыгіналы заўсёды знаходзяцца перад вачыма». Час мяняецца, а людзі, як і заганы, усё тыя ж. Што да крыўды за сучаснае чыноўніцтва, дык, перафразоўваючы Гогаля, можна сказаць: «Чаму крыўдуеце? На сябе крыўдуеце!.. Эх, вы!»

Такім чынам, звышмэта творцаў спектакля — выкарыстоўваючы класічныя традыцыі народнай смехавой культуры, высмеяць некаторыя негатыўныя з'явы ў сучасным грамадстве. Прычым аўтар не сцвярджае, што гэта хваробы толькі сучаснага і айчыннага грамадства. Шматлікія звароты да гістарыяграфіі і сусветнай літаратуры, латыні і іншых моў красамоўна сведчаць пра тое, што праблемы гэтыя старажытныя, як латынь, і што характэрныя не толькі для нас.

Якіх толькі дзівосаў не ўбачыш за ўласныя грошы! Усе намаганні абодвух зяцёў закручвалі спружыну сцэнічнага дзеяння амаль што да самага фіналу — кульмінацыйнай сцэны ўрачыстага адкрыцця Міжнароднай навуковай канферэнцыі «*Кот і чалавек: праблемы і перспектывы ўзаемадзеяння*». І ў момант найвышэйшага напружання сацыяльна-камедыйнага канфлікту гэтая спружына раптам выпростваецца: кот Максім знік! Адразу ж адбываецца заключная сцэна, у якой, як у «Рэвізоры», усё становіцца на свае месцы: Натарыус паведамляе, што пані Збароўская вяртаецца з-за мяжы і адмяняе свой папярэдні тастамент. Тут, па задуме драматурга і аналогіі з гогалеўскай п'есай, павінна быць нямая сцэна, але ці яна не была прадугледжана рэжысёрскім сцэнарыем, ці проста не ўпісалася… Карацей, яе няма.

Самы моцны эфект стварае той спектакль, які выглядае як адзінае цэлае, які «зачапіў» гледача і да самага фіналу не адпускае. Менавіта такія словы, нягледзячы на дробныя і цалкам апраўданыя недахопы прэм'ернага паказу, можна сказаць і пра спектакль Багдана Арлоўскага «Кот на лаўрах».

*Паралелі*

# Схавацца… у страшных раманах



**Сара Джэнінгс вывучае мастацтва ілюстрацыі ва Універсітэце Вулверхэмптана (Вялікабрытанія). Асабліва любіць распрацоўваць вобразы для дзіцячых кніг і марыць калі-небудзь выдаць уласны твор для дзяцей са сваімі ж ілюстрацыямі. Яе малюнкі прываблівають незвычайнай цеплынёй. Утульныя гарадскія шматпавярховікі, вобразы дзяцей, падобных да герояў англійскіх раманаў… Які стыль малюнкаў у кнігах для дзяцей сёння папулярны ў Вялікабрытаніі? Навошта мастаку чытаць страшныя раманы? Што першаснае — тэкст ці ілюстрацыя? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні мы спрабавалі знайсці ў гутарцы з маладой мастачкай.**

**— Сара, чаму ты вырашыла заняцца менавіта ілюстрацыяй?**

— Я вельмі люблю маляваць! Пачала гэтым займацца, як толькі навучылася трымаць у руках аловак. Мяне заўсёды цікавіла мастацтва, яшчэ з дзіцячага ўзросту я ведала, што хачу працаваць у гэтай сферы, хачу нешта ствараць. Але менавіта ілюстрацыяй я зацікавілася падчас навучання ў каледжы, цяпер працягваю вывучаць гэты від мастацтва ва ўніверсітэце.

**— Ты падкрэсліваеш у сваім партфоліа, што табе асабліва падабаецца ствараць малюнкі для дзяцей. Чаму так атрымалася?**

— Малюнкамі для дзяцей я моцна зацікавілася яшчэ падчас навучання. Адным з заданняў было праілюстраваць старыя тэксты з кніг. Іх давалі нам выкладчыкі, але можна было выбраць самому. Цудоўна! Здаецца, што я заўсёды магла б толькі рабіць накіды, чарнавікі, ствараць розныя варыянты вобразаў герояў, распрацоўваць новыя ідэі для ілюстравання гісторый. Гэта тое, да чаго ў мяне сапраўдная страсць! Мне заўсёды падабаліся дзіцячыя кнігі з малюнкамі. Спадзяюся, што аднойчы ў такім выданні пабачу свае ілюстрацыі.

**— Калі б ты мела магчымасць выбраць кнігу для дзяцей, каб яе праілюстраваць, якая гэта была б кніга?**

— О, іх шмат! Мне заўсёды падабалася наноў ствараць малюнкі для «Хлопчыка Авакада» Джона Бернінгема. Гэта гісторыя пра хлопчыка, які станавіўся вельмі моцным пасля таго, як з'есць авакада. Кніга смешная і вельмі мілая — адна з маіх любімых яшчэ з дзяцінства! Арыгінальныя ілюстрацыі да гэтага выдання таксама вельмі прыгожыя.

**— Калі паразважаць пра тэкст кнігі і малюнкі да яе, што павінна распрацоўвацца першым — візуальны вобраз для ілюстрацыі, створаны мастаком, ці мастацкі, распрацаваны пісьменнікам?**

— Думаю, гэта залежыць ад асоб, якія працуюць над кнігай. Мне больш падабаецца працаваць з ужо гатовым тэкстам ці хаця б падрабязна распрацаваным сюжэтам. Так прасцей прыдумваць вобразы герояў. Але я ведаю ілюстратараў, якія спачатку ствараюць малюнкі і толькі потым прыдумваюць гісторыю, якая магла б іх дапоўніць.

**— У Беларусі кнігі з класічнымі ілюстрацыямі больш папулярныя, чым выданні з сучаснымі абстрактнымі малюнкамі. А якія запатрабаваныя ў Вялікабрытаніі?**

— Думаю, можна сцвярджаць, што цяпер больш папулярныя кнігі з сучаснымі і нават эксперыментальнымі ілюстрацыямі. Больш за тое, сёння так перавыдаюцца многія класічныя кнігі для дзяцей, нават тэксты занава перапісваюцца. Да прыкладу, «Прынцэса і гарох» Кэрыл Хат — выдатны пераказ казкі Г. Х. Андэрсена «Прынцэса на гарошыне». У Вялікабрытаніі ілюстратары дзіцячых кніг, працуючы над новымі выданнямі, сапраўды спрабуюць пашырыць звыклыя межы. Часам я нават не ведаю, чаго чакаць, калі раскрываю новую кнігу.

**— Якіх мастакоў ты лічыш сваімі настаўнікамі стылю, манеры маляваць?**

— Многія ілюстратары паўплывалі на мой стыль. Я вялікі фанат Лорэн Чайлд, Ніла Лэйтана, Лі Ходкінсан і Сары Оджылві.

**— Што, на тваю думку, больш важна для ілюстратара кніг: уменне працаваць у розных стылях ці наяўнасць уласнага мастацкага почырку?**

— Уласны стыль вельмі важны, ён паказвае, што твае работы маюць свой характар і іх лёгка адрозніць ад іншых. Больш за тое, прапаноўваючы табе працу, людзі будуць ведаць, якога выніку чакаць. З іншага боку, гнуткасць стылю і разнастайнасць ілюстрацый таксама важныя.

**— Вельмі часта аўтары кніг для дзяцей выступаюць і ў якасці мастакоў. А ты ніколі не думала пра тое, каб напісаць сваю кнігу і праілюстраваць яе?**

— Гэта тое, пра што я думаю ўжо некаторы час. У маёй свядомасці «плавае» некалькі ідэй, і, магчыма, аднойчы выкладу іх на паперу і проста адпушчу!

**— А ўвогуле, што цябе натхняе?**

— Жывёлы, асабліва два мае каты і вялікі няўклюдны сабака! Я заўсёды назіраю за людзьмі падчас прагулак, і вобраз амаль кожнага цікавага чалавека, якога я бачу, ператвараецца ў эскіз у маім нататніку.

**— Паколькі наш праект мае назву «Кніжны свет», цікава даведацца, якія кнігі ты чытаеш і хто твой любімы пісьменнік?**

— У мяне велізарная калекцыя дзіцячых кніг, думаю, ёй крыху пазайздросціла б любое дзіця! Але акрамя гэтага атрымліваю вялікае задавальненне ад чытання страшных раманаў. Паколькі яны цалкам адрозніваюцца ад усяго, чым я займаюся, то ствараюць ураджанне ўцёкаў ад рэчаіснасці. Гэта кнігі Рычарда Мэцісана, Стывена Кінга, Дзіна Кунца і некаторых іншых маіх любімых творцаў.

*Малюнкі Сары Джэнінгс*





**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Паэт не ставіць кропку




Што такое верш? Колькі ў свеце паэтаў, столькі і адказаў. Нават больш: сваё бачанне маюць і чытачы, і крытыкі, і нават тыя, хто «не чытаў, але асуджае». У Алеся Емяльянава-Шыловіча, які ўрэшце займеў натуральнае шчасце — кнігу вершаў, — таксама маецца адказ. «Верш — імгненне, выхапленае ў вечнасці і застылае на паперы, нібы закрышталізаваная ў бурштыне кузурка, травінка ці каменьчык». Можна пагадзіцца з такім азначэннем, можна паспрачацца, даводзячы, што бурштын — занадта нежывая для верша матэрыя, аднак метафара гэтая слушная ў дачыненні да тэкстаў самога Алеся, за выключэннем двух-трох цьмяных твораў, напісаных, відаць, «на зары туманнай юнасці».

Паняцце «малады паэт» часам ужываецца як эўфемізм да менш прываблівых азначэнняў. Прынамсі, сустракаюцца вершы «маладых паэтаў», якія не вылучаюцца арыгінальнасцю, падобныя між сабой, як кубкі з сервіза.

Алесь Емяльянаў-Шыловіч — малады паэт, але ў тым толькі сэнсе, што яму 25 гадоў. Не рызыкну сказаць, што яго вершы можна пазнаць сярод тысячы іншых (але такое цалкам магчыма праз гадоў дваццаць), аднак у межах адной кнігі— «Парасонечнасць» — яны выглядаюць арганічна. Калі скарыстацца медыцынскай тэрміналогіяй, да якой звяртаецца і сам Алесь (што тлумачыцца яго прафесіяй), кніга паўстае кардыяграмай здаровага чалавека (здаровы тут значыць таленавіты). Кожны верш — удар, поўны жывой крыві. Праўда, здараюцца збоі, але гэта, хутчэй, прыкмета здароўя, чым падступнай хваробы. Асабліва ўражваюць трыпціхі «Поліс» і «Герастрацыяда», вершы «Балада вар'яцкага транспарту», «Парацэльс», «Раство», «Ільвіца».

Анатацыя паведамляе нам, што «асноўная тэма кнігі Алеся Емяльянава — пошук… сябе і свайго месца ў свеце, пошук пяшчоты і цеплыні ў людзях, якія знаходзяцца побач». Але гэтага мала. Ці, наадварот, занадта многа: творчасць любога паэта — пошук. Аўтара відавочна хвалююць дзве тэмы: каханне і слава.

«Парасонечнае» каханне — нервовае і хваравітае. Лірычны герой ездзіць на начных трамваях, блукае па горадзе, сумуе па мінулым і ўсё перажмаецца: а ці кахае яна? А што будзе далей? А ці будзе ўвогуле гэтае «далей»? Пытанні з шэрагу бессмяротных і адначасова банальных, і хоць аўтар адказаў на іх не знаходзіць, паставіць іх ярка, часам нават балюча ўмее.

Што да славы. Упершыню гэты пункцік прабіваецца ў трыпціху «Парогі». Емяльянаў-Шыловіч увогуле мае слабасць да трыпціхаў: мусіць, у будучым гэта выльецца ў паўнавартасную паэму. Далей трыпціх «Герастрацыяда», чыя назва гаворыць сама за сябе. «Жахлівей за ўсё — забыццё», — тлумачыць сабе свой страх і непакой аўтар, міжвольна апраўдваючы Герастрата. У праціг тэмы — верш «Прадчуванне», дзе Емяльянаў-Шыловіч пакутна разумее, «што ўсё мінае, а калісьці й ты мінеш». Але няхай чытач не думае, быццам бы маладога паэта заспела манія велічы. Насамрэч, такія пакуты — справа, можна сказаць, бытавая для творцы.

А напрыканцы кнігі Алесь Емяльянаў-Шыловіч вырашыў не ставіць кропку.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# У Грэцыі ўсё ёсць?

Звычайна тут маюць на ўвазе рэчы. Але ж перадусім у Грэцыі з'явіліся — вылучыліся, усвядоміліся, апрацаваліся, увасобіліся — сэнсы. Сэнсы ўсяго, што ёсць на свеце, дзеля чаго ўсё ёсць і, галоўнае, — дзякуючы чаму. Быццам сціплая, а насамрэч глыбокая і змястоўная, да таго ж займальная, іранічна-гуллівая кніга Пятра Васючэнкі — пра Галоўнае.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Чарговы раз пераканалася: поспех мае аўтар, які не прагне «навізны» і абапіраецца на ўжо «гатовы» матэрыял, на перажытае ім самім, сваякамі, землякамі, суайчыннікамі або чалавецтвам увогуле. Апошняе — міфалогію — выкарыстоўвае П. Васючэнка, здзейсніўшы, па сутнасці, тое ж самае, што і Томас Ман, які калісьці прапанаваў «падрабязнасці» гісторыі пра патрыярхаў з Кнігі Быцця («Іосіф і яго браты»). Мовай ХХ стагоддзя нямецкі класік «патлумачыў» за даўніной і звышзнаёмасцю «сцёрты» біблейскі тэкст, ажывіў яго за кошт дэталізацыі, іранічнага каментарыя, проста чалавечай спагады — тое ж робіць беларускі аўтар на ўдзячнай глебе старажытнагрэчаскага эпасу. «Ну вось, цяпер ведаеш, як на самай справе ўсё было!..» — рад




авалася томасманаўская сакратарка, перадрукаваўшы «Мінулае Іакава», першы том «Іосіфа». Чытач «рамана-бурлеска» П. Васючэнкі пра Дванаццаць подзвігаў Геракла, напэўна, скажа штосьці падобнае, даведаўшыся, «як на самай справе» сталела і разумнела «падлеткавае чалавецтва», шукаючы шлях да гранічных жыццёвых, маральных высноў, усім нам быццам добра вядомых.

Што кіруе светам? Пра гэта неадступна думае Геракл, хаця, здаецца, справу у яго хапае: ён павінен здзейсніць дванаццаць подзвігаў, каб мець права ўзысці на Алімп, стаўшы роўным неўміручым багам. Можа, светам уладарыць бог часу Хронас, бо вельмі шмат ад яго залежыць? Можа, светам кіруюць жанчыны — надта ж дасціпнымі падаюцца амазонкі, да таго Геракл мае шмат магчымасцей назіраць, як справы мужчын падпарадкаваныя капрызам жанчын, ды і сам ён скача па свеце, падпарадкоўваючыся волі багіні-мачыхі? Нават імя яго — «Той, хто здабывае славу дзякуючы перашкодам Геры»! А можа, усё на свеце вырашае выпадак? Выпадак дапамагае герою сустрэць Праметэя, які ахвяруе сабой дзеля людзей, прымушае Хірона на вачах у Геракла аддаць сваю неўміручасць Праметэю, а самому скіравацца ў царства мёртвых... Магчыма, і славіў бы Выпадак герой, але тым часам амаль усе свае подзвігі ён здзяйсняе пры дапамозе (або праваканні) іншых — смяротных, несмяротных і напаўсмяротных істот, часам — нішчымных, часам — велічных і высакародных. Загаварыць у наш час пра вызначальны «феномен Другога», але Геракл скарыстае іншыя словы: «Неўміручыя багі, я даведаўся, што кіруе светам! Любоў! Міласэрнасць! Літасць!» — словы, шматкроць паўтораныя рэхам гор.

Геракл сустракае на сваім шляху і іншыя, негатыўныя, праявы таксама і нашага досведу, дзеля якіх мы маем свае азначэнні (а Геракл часам не мае ніякіх).

«...Кентаўры зараўлі ў шале. Лапіфы былі ненавісным для іх племенем, з якім выявалі яшчэ прадзеды сучасных кентаўраў. Маладое пакаленне ніколі не бачыла жывых лапіфаў, не ўяўляла нават, як яны выглядаюць, але цвёрда ведала, што лапіфы — ворагі. Як ні дзіўна, кентаўры і лапіфы, як казалі паданні, — сваякі, мелі агульных продкаў. Чаму ж яны ў такім разе варагавалі?..»

«Фракія для фракійцаў! Фракія для фракійцаў!» — раве натоўп у адказ на правакуючыя звароты свайго цара Дыямеда.

Аповед пра Лярнейскую гідру (Другі подзвіг Геракла) амаль цалкам нагадвае гісторыі таталітарных рэжымаў: «стыль» існавання і харчавання («плёскаючыся ў крыві»), рэагаванне на небяспеку, прыёмы абароны і наступу, урэшце — захоўванне пасля «смерці» («Гэты вірус жывы заўсёды», — скажа Альбер Камю ў «Чуме»). Якая геніяльная антычная галава прадбачыла агідныя прыклады ўсходніх і заходніх імперый і іх крыважэрных практык?..

«Ці знойдзе чалавек-сучаснік адказ на загадку, якую паставілі перад Гераклам багі?» — пытаецца ў Пралогу аўтар. Улічваючы, што герой, як мы бачылі, быццам адказ знаходзіць, сучасніку варта спытаць сябе, ці мяркуе ён гэтаксама. І задумацца, чаму, дзеля таго, каб успомніць відавочнае і агульнавядомае, ён павінен прайсці разам з Гераклам праз яго дванаццаць (насамрэч значна больш) выпрабаванняў? Ці не таму, што самае блізкае бачыцца далей і цяжэй за ўсё? Акрамя іншых, у Старажытнай Грэцыі вырашалі і такую загадку. Няхай бы хто цяпер напісаў раман яшчэ пра Геракліта ды Парменіда…

Калі задаць пытанне, што робіць твор «бурлескам» (чаму ён чытаецца «смешна»), магу прапанаваць такую версію: наўмыснае выкарыстанне аўтарам не проста сучаснай, але і крыху «навуковай» лексікі ў дачыненні да старажытнага «кантэксту». Знакаміты Пяты подзвіг Геракла («Незлічоныя скарбы цара Аўгія») вымушае яго папрацаваць «асенізатарам», абараняльная здольнасць гідры ўзнаўлядь свае галовы завецца «рэне... рэгенерацыяй» і г. д. Зразумела, ёсць і іншыя бурлескныя хады.

Дарэчы, пра мову: карысць экскурсу П. Васючэнкі ў антычнасць яшчэ і лінгвістычная — у дадатак да маральнавыхаваўчай, інтэлектуальнай, забаўляльнай. Сучасная мова багацее за кошт таго, што праз яе перадаюць нязвыклыя, нечаканыя, фантазійныя «рэаліі». Мова шукае дадатковых сродкаў, робіцца больш гнуткай, вытанчанай, рознакаляровай — дасканалай. А дасканалая мова ўдасканальвае ўспрыманне і розум. Больш гнуткі розум — больш вытанчанае разуменне гранічных сэнсаў, калісьці намацаных Антычнасцю. Чалавецтва ўсё яшчэ расце. «Дэградацыя» — гэта калі без мовы.

*Сівая спадчына*

# Абрад з гісторыяй. Аўтэнтычнай, трыстагадовай

У розных мясцінах Магілёўскай вобласці і іншых рэгіёнах Беларусі захаваліся абрады і згуртаванні людзей, якія аб'ядноўваюцца вакол Мікольскай, Варвараўскай, Благавешчанскай свячы — свячы ў гонар роўнаапостальных Пятра і Паўла.

**Вольга СЕМЧАНКА**

Пра феномен абрадавай практыкі беларусаў у вёсцы Чарапы Шклоўскага раёна распавядае манаграфія «Мікольская "Свяча"». Аўтары ілюстраванага выдання — кандыдат філалагічных навук, рэктар Інстытута культуры Беларусі Іван Крук і дацэнт кафедры культуралогіі і псіхолага-педагагічных дысцыплін гэтай установы Аксана Катовіч. На аснове багатага этнаграфічнага матэрыялу яны апісалі аўтэнтычную традыцыю святкавання Мікольскай «Свячы», раскрылі яе сэнс у кантэксце іншых сямейных абрадаў.

Манаграфію выдаў Інстытут культуры Беларусі пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у серыі «Духоўная спадчына беларусаў». У падрыхтоўцы матэрыялу да кнігі дапамогу аўтарам аказалі ўпраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама, Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці, прадстаўнікі мясцовай улады і цэнтралізаванай клубнай сістэмы Шклоўскага раёна, Магілёўскай тэлерадыёкампаніі «Магілёў-1».

У вёсцы Чарапы на сённяшні час існуе тры «свячы», вакол якіх гуртуюцца мясцовыя жыхары. Абрад «Мікольская "Свяча"» праходзіць зімой, на Міколу, і яму ўжо як мінімум трыста год. Ён і сёння захаваўся ў тым выглядзе, якім памятаюць яго носьбіты. Сакральнымі атрыбутамі абраду з'яўляюцца абраз святога Мікалая Угодніка, які з году ў год пераходзіць з хаты ў хату, і вялізныя самаробныя свечы, якія вяскоўцы разам з дзецьмі і ўнукамі штогод сукаюць з пчалінага воску.

Абрад святкуецца чатыры дні пачынаючы з 18 снежня. У першы дзень члены «свячнога» гурта збіраюцца (склікаюць іх дзеці, абышоўшы хаты) у хаце гаспадара, дзе знаходзіцца свяча. Вызначаюць, у каго будзе ў наступным годзе «жыць святы Мікола» — гэта павінен быць годны, паважаны чалавек. А гаспадыня павінна зрабіць своеасаблівую ахвяру — ссукаць новую свячу.

На другі дзень прыпадаюць асноўныя дзеянні: сустрэча гасцей, малітва і абракание, развітальны стол і перанос святога абраза і свячы да новага гаспадара. Удзельнікі згуртавання збіраюцца разам і рушаць у хату, дзе цягам года захоўвалася ікона Мікалая, многія прыносяць з сабой жыта для гаспадароў. Эпіцэнтрам абрадавых падзей становіцца чырвоны кут, у якім знаходзіцца складзень з выявай Міколы Угодніка. Пад абразам знаходзіцца невялікая шуфляда, у якой захоўваюцца ахвярныя грошы — для Мікалая.




Побач у лубцы з зернем жыта стаяць тры вялікія самаробныя свечкі.

Кожны з гасцей падыходзіць да абраза, тройчы хрысціцца, а затым пакрывае абраз «намёткай» — кавалкам тканіны. Каля іконы таксама пакідаюць грошы, цукеркі — пачастунак для Мікалая. Затым госць адыходзіць да печы, і яго месца займае наступны ўдзельнік абраду. Гаспадыня хаты запрашае гасцей за стол. Старажылы згадваюць, што ў даўнія часы ў хаце збіраліся па 70 — 80 чалавек, і месца за сталом не хапала, даводзілася стаяць. Многія, асабліва старыя людзі, пасціліся і не елі скаромнага. Застолле заканчваецца спяваннем псалмоў Міколу Угодніку.

Надыходзіць час гаспадыні развітацца з іконай. Тройчы абышоўшы стол, на якім знаходзіцца бохан хлеба, працэсія выходзіць на двор, несучы свечкі і абраз Міколы, пакрыты «намёткамі». Па дарозе людзі прыпыняюцца, кідаюць на снег пад іконай кажух і пралазяць пад ёй з боханам хлеба — «каб не балела спіна і былі здаровыя». Потым мужчыны, што трымаюць абраз у руках, заносяць яго ў хату новых гаспадароў і ставяць у чырвоны кут. Людзі зноў вяртаюцца за святочны стол.

У трэці дзень адбываеца дзеянне пад назвай «Адведаць Міколу»: былы гаспадар абраза і свячы ідзе ў госці да новых гаспадароў, каб адведаць абраз. Чацвёрты дзень — «Цыганы» — вяскоўцы апранаюцца ў цыганоў і ходзяць па хатах, збіраючы сала, крупы, каўбасы і іншую ежу, затым прыносяць сабранае гаспадару і супольна ладзяць застолле.

Сёння да абраза Міколы Угодніка і саюза «свячы» далучаюцца жыхары суседніх вёсак. Людзі вераць у тое, што святы Мікола Угоднік дапамагае ім у цяжкія хвіліны, з'яўляецца абярэгам сямейнага шчасця і дабрабыту. Ён здаўна шануецца ў народзе як літасцівы, міласэрны святы, заступнік простага люду. Важна, што абрад пераймаецца маладым пакаленнем — дзецьмі і ўнукамі носьбітаў традыцыі. «Свяча» з'яўляецца спадчынай беларускай традыцыйнай культуры і паказчыкам багацейшай рэгіянальнай традыцыі.

# Дзеці: чытачы і рэцэнзенты

Часам літаратура нагадвае вуліцу з аднабаковым рухам. Ты прыдумаў, напісаў. Занёс у рэдакцыю ці выдавецтва. Пачакаў, апублікавалі. І — усё! Бывае, трое сяброў скажуць, што прачыталі. Здараецца, з'явіцца рэцэнзія, разгорнутая ці малая. А часам — цішыня. А ці чыталі тыя, каму адрасавана? Закранула ці не? Адчуць, ці патрэбнае тваё «крэмзанне паперы» каму-небудзь акрамя сяброў, дапамагаюць сустрэчы з чытачамі. Іх надарылася ў мяне шмат, пераважна ў дзіцячых бібліятэках і школах. А вось і ўражанні.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

Адна з самых запамінальных сустрэч адбылася ў матэматычнай гімназіі № 50, якая знаходзіцца ў цэнтры Мінска. Паступіць у элітарную ўстанову імкнуцца многія, бо яе выпускнікі потым лёгка здаюць іспыты ў самыя прэстыжныя ВНУ. Запрасіла мяне, каб выступіць перад другакласнікамі, Людміла Іванаўна Моднік, тагачасны завуч пачатковых класаў.

Пачынаецца сустрэча. Адразу відаць, што дзеці не абы-якія. Вочы разумныя, жвавыя. Публіка інтэлектуальная, хоць няўрымслівая і гаваркая. Падрыхтаваліся да сустрэчы грунтоўна! Такую ўвагу і павагу да пісьменніка, такую душэўную тактоўнасць і чуласць мала дзе можна сустрэць! На заслоне, якая аддзяляла сцэну ад актавай залы, вісела безліч дзіцячых малюнкаў, зробленых яркімі фламастарамі, каляровымі алоўкамі і проста шарыкавай ручкай. Найчасцей на малюнках трапляліся іншапланетныя талеркі, мурашы і выявы хатніх жывёл. Гэта былі ілюстрацыі да кніжкі маіх апавяданняў і казак «Віця Неслух у краіне мурашоў». Потым дзеці падаравалі мне свае малюнкі, беражліва захоўваю іх у асобнай папцы па сёння.

Хлопчыкі і дзяўчынкі чыталі на памяць мае вершы і ўрыўкі з апавяданняў. Нечакана! Нібыта тваё, але ў чыёй-небудзь інтэрпрэтацыі… Вядома, задавалі пытанні. Былі яны і разумныя, і гарэзныя, і падзіцячы непасрэдныя. Здавалася, дзецям усё цікава:

— А ў якой школе вы вучыліся?

— Якія былі вашы любімыя прадметы?

— Ці былі ў вас двойкі?

— Які быў ваш першы верш?

— А ці памятаеце вы сваё першае апавяданне?

— Як клічуць вашых дзяцей?

— Які свой верш вы найбольш любіце?

— Як вы іх прыдумваеце?

Адно з пытанняў, якое выклікала смех і ў дзяцей, і ў настаўнікаў, было вартае клуба вясёлых і знаходлівых. Прычым, вышэйшай лігі:

— Скажите, пожалуйста, а вы по-русски понимаете?

Хацелася і смяяцца, і плакаць. Бо дзецям нязвыкла, калі да іх прыходзіць пісьменніца і размаўляе па-беларуску. Калі пазней, у розных сітуацыях, згадвала гэтае пытанне, смех у слухачоў-дарослых узнікаў заўсёды.

***

Яшчэ адно цікавае пытанне прагучала на той самай сустрэчы: «А ці ёсць у вас дома кот ці сабака?» Прагучала невыпадкова. Бо ў зборніку вершаў «Калі тата — Дзед Мароз» быў надрукаваны верш пра ката-бамжа, у якога няма ўласнага ўтульнага дома. Мяркуючы па тым, колькі выяў самых розных катоў — рыжых, шэрых, чорных, паласатых — аказалася сярод дзіцячых малюнкаў, можна было зразумець, што лёс менавіта гэтага коціка эмацыянальна крануў дзяцей і прымусіў спачуваць ягонаму лёсу.

Што ж адказаць? Дзеці зусім лагічна меркавалі, што нельга напісаць цікавы вершык пра ката, калі не маеш яго дома і не назіраеш за яго паводзінамі. Вядома, яны спадзяваліся, што кот у мяне ёсць. Выдумаць можна, але хлусіць непрыемна! Калі спытаюць, як ката клічуць? Якога ён колеру? Заблытаюся! Таму давялося шчыра сказаць, што пакуль няма. Памятаю лёгкае, ледзь прыкметнае расчараванне, якое, нібы павеў ветру, пралцела па аўдыторыі.

Напрыканцы сустрэчы дзеці падаравалі шмат букетаў вясновых кветак — на працы потым увесь стол быў букетамі застаўлены. Вядома ж, былі яшчэ аўтографы на памяць. На кожным экземпляры… Для хлопчыкаў і дзяўчынак наяўнасць аўтографаў, ды яшчэ імянных, — надзвычай радасная частка сустрэч. Людміла Іванаўна расказала пазней, што, прыйшоўшы дадому, некаторыя дзеці паклалі паперкі з аўтографамі ў куфэрачкі, дзе захоўваюцца самыя дарагія рэчы. Як кранальна! Скептычны голас падказвае, што, магчыма, праляжаць яны там нядоўга, да бліжэйшай уборкі кватэры. Але ж прыемна…

Сёння, калі пісьменнік, асабліва дзіцячы, акрамя маральных дывідэндаў, амаль нічога са сваёй працы не мае, такое стаўленне ўспрымаецца як фантастычнае і неверагоднае. Падобныя сустрэчы запамінаюцца на ўсё жыццё. Велізарнай колькасцю шчырых, непасрэдных, шчодрых эмоцый. А яшчэ — альбомам малюнкаў, зробленых дзецьмі-школьнікамі паводле тваёй уласнай кнігі.



*Сустрэча з чытачамі ў сталічнай сярэдняй школе № 24.*

***

Колькі сустрэч з юнымі чытачамі адбылося недалёка ад сталіцы, у Мінскім раёне: Прывольнае, Лугавая Слабада, Новы Двор, Гатава, Замасточча, Астрашыцкі Гарадок. Варта заўважыць, што за кальцавой жыццё ўсё-такі іншае. Не горшае і не лепшае — іншае. Людзі больш эмацыянальныя і разняволеныя, чым у сталіцы. А вось дарогі нашмат горшыя. Бібліятэкі таксама розныя. Часам утульныя, «цёплыя», багатыя і дагледжаныя. З паліцамі, на якіх — шыкоўныя альбомы, выдадзеныя зусім нядаўна. Часам бібліятэкі з'яўляюцца часткай вялізных, агромніста-няўтульных будынкаў. А на паліцах пераважае даўно набытая літаратура (пра што сведчыць зжаўцелая папера і абшмуляныя вокладкі). Бо на новыя выданні сродкаў, на жаль, не хапае...

Зразумела, карысць ад такіх сустрэч двухбаковая. Бібліятэкаркі, пераважна маладыя дзяўчаты, хочуць зладзіць цікавую імпрэзу, якая адбудзецца ў самой бібліятэцы, школе ці летнім аздараўленчым лагеры. Аўтар кнігі хоча пабачыць твары сваіх чытачоў (рэальных ці патэнцыяльных), адказаць на пытанні. І адначасова распаўсюдзіць частку тыражу. Тым больш што кніга «Вожыкі ў футбол гуляюць», дзе былі сабраныя вершы, апавяданні і казкі, атрымалася знешне вельмі яркай і прывабнай. Найперш дзякуючы таленту і густу мастачкі Галіны Хінка-Янушкевіч. Гарэзны вожык-футбаліст, апрануты ў майку футбольнага клуба «Дынама» з яблыкам замест мяча, выклікаў ажыўленне ў дзіцячай аўдыторыі. Асабліва ў хлопчыкаў, чые гульні і захапленні, на мой погляд, адлюстраваны ў сучаснай беларускай літаратуры ў меншай ступені, чым гульні і мары цяперашніх дзяўчынак.

Увогуле, кантакты з аўдыторыяй малодшых школьнікаў надзвычай карысныя і адметныя. Дзеці жывыя, няўрымслівыя, наіўныя, расхінутыя. Інакш кажучы, яшчэ не сапсаваныя далучэннем да жыцця дарослага. Аўдыторыя, прынамсі, студэнцкая (даводзілася выступаць і перад такой) больш ціхая і маўклівая. Магчыма, засяроджаная на нявырашаных праблемах. Таму пытанні падчас такіх сустрэч задаюць выкладчыкі, а не іх выхаванцы. А дзеці пакуль яшчэ вераць у тое, што кажуць дарослыя. Жывы інтарэс да таго, пра што ты распавядаеш, жывая рэакцыя на вершы — іх схаваць немагчыма.

Вядома, калі ў актавай зале школы збіраецца тры, а то і чатыры класы, дапамагае здольнасць не баяцца вялікай аўдыторыі, а імкненне яе «завесці», разварушыць. І прапанаваць займацца творчасцю разам.

— Дзеці, зараз мы з вамі будзем разам сачыняць вершы!

Ну як не адгукнуцца?!

— Падыміце рукі, хто сам сачыняе?

Звычайна рука не адна...

***

Наўрад ці забуду сустрэчу, якая адбылася ў аграгарадку Навaселле, які знаходзіцца недалёка ад Мінска. Ехаць трэба ў кірунку Ракава і Валожына. Бібліятэкар Ірына Уладзіміраўна, якая ладзіла сустрэчу, загадзя дала дзецям пачытаць апавяданні з майго зборніка. А потым склала крыжаванку, радкі якой павінны быць занятыя імёнамі герояў апавяданняў. Але ж калі не прачытаў, дык і не будзеш ведаць! Паміж двума групамі дзяцей ішло заўзятае спаборніцтва, хто ж выканае заданне хутчэй. У выніку ў вертыкальным слупку павінна атрымацца прозвішча і імя аўтара. Вядома, той аркуш фармату А4 з крыжаванкай я папрасіла ў арганізатараў на памяць.

Дзіва дзіўнае! Ад такога стаўлення да сябе пачынаеш ніякавець. Аказваецца, тое, што ты напісаў не ўчора і не пазаўчора, пра што паспеў забыць, займаючыся іншымі, тэрміновымі справамі, — яно гучыць! Рэзануе ў прасторы і часе, адгукаецца радасцю ў чыёй-небудзь свядомасці.

Падчас сустрэчы ў Астрашыцкім Гарадку кніг для дзяцей аказалася замала. Адзін з хлопчыкаў захацеў ажно тры экзэмпляры. Але давялося суцешыць: пакуль будзе толькі адзін.

— А для каго ты хацеў яшчэ два мець? — цікаўлюся я.

— Для сястры і для сябра…

І хлопчыка шкада, што яму каштоўнай прадукцыі не хапіла. І самой прыемна.

У такіх сітуацыях заўжды адчуваеш, што ўспрыманне дзецьмі пісьменніка і яганых твораў шмат у чым залежыць ад настаўніка. Ад таго, ці разумее ён каштоўнасць вершаванага радка, кароткага апавядання ці казкі.

Шчыры інтарэс да тваёй асобы, які выяўляецца ў пытаннях кшталту «А што вас натхняе?» ці «Чаму вы вырашылі напісаць менавіта такую кнігу?», «Хто вам падказаў ідэю гэтага апавядання?», гучыць потым у свядомасці, як доўгае рэха.

***

Час — субстанцыя імклівая. Змяняюцца эпохі, іх знешнія прыкметы і сутнасць. З'яўляюцца новыя тэхналогіі. Але надзея, што напісанае намі спатрэбіцца, заўсёды застаецца. Што будзе ад напісанага знак і след. І што па кнігу прыйдуць у бібліятэку. Для пачатку — хоць бы дзеці…

## Што? Дзе? Калі?

Выстаўка «Наперад у мінулае», прысвечаная 70-годдзю беларускай мастацтвазнаўцы Надзеі Высоцкай, праходзіць у зале выяўленчых і відэадакументаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Доктар мастацтвазнаўства, прафесар БДУ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у сферы навукі і тэхнікі, Надзея Высоцкая доўгі час з'яўлялася загадчыцай аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея. На яе рахунку звыш 500 навуковых каталогаў, манаграфій, брашур, артыкулаў, праграм і метадычных рэкамендацый. Кола навуковых інтарэсаў — выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII — XVIII стст., праблемы ўсеагульнай гісторыі мастацтваў, пытанні рэстаўрацыі і кансервацыі, атрыбуцыі, экспертызы і ацэнкі помнікаў XII — XVIII стст. і інш. Н. Высоцкая была кіраўніком 70 навуковых экспедыцый у Беларусі, пасля чаго амаль 2 тыс. экспанатаў XV — XX стст. знайшлі свае месца ў фондах дзяржаўных музеяў. Да таго ж, яна плённа займаецца педагагічнай дзейнасцю ў вышэйшых навучальных установах Беларусі, Расіі, Іспаніі, Італіі і Вялікабрытаніі. На выставачных стэндах прадстаўлены навуковыя працы, аўтарэфераты кандыдацкай і доктарскай дысертацый Н. Высоцкай, зборнікі навуковых канферэнцый, артыкулы, паштоўкі, рэпрадукцыі, а таксама выданні, дзе Высоцкая выступала як рэдактар, рэцэнзент і кансультант. Адзін з раздзелаў экспазіцыі пазнаёміць наведвальнікаў з даведачнымі выданнямі і публікацыямі, якія змяшчаюць матэрыялы пра юбіляра, фотаздымкі з сямейнага архіва.

Выстаўка літоўскага фотамастака Альгімантаса Александравічуса «Розныя эпохі, адзіныя карані» працуе ў галерэі «Панарама» НББ. Фотамастак Александравічус паглыбіўся ў мінулае Вялікага Княства Літоўскага і імкнуўся адшукаць у Літве, Беларусі і ва Украіне водбліскі велічы гэтай дзяржавы. Жыццёвыя вехі паэтаў Адама Міцкевіча і Чэслава Мілаша, якія лічылі сябе апошнімі грамадзянамі ВКЛ і прадаўжалі яго традыцыі, знайшлі адлюстраванне ў здымках фотамастака. Альгімантас Александравічус з уласцівай яму вынаходлівасцю злучае знакі, пакінутыя паэтамі на іх жыццёвым шляху, з рэаліямі цяперашніх дзён.

Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сумесна з Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, пры падтрымцы Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі абвясціла праведзенне V Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі маладых навукоўцаў і спецыялістаў «Бібліятэка і грамадства: праблемы і кірункі развіцця», якая пройдзе восенню гэтага года. Плануецца абмеркаваць гісторыю бібліятэчнай справы, праблемы фарміравання, захаванасці і выкарыстання фондаў рэдкіх кніг і рукапісаў, інфармацыйныя рэсурсы бібліятэк, менеджмент і маркетынг, бібліятэчную адукацыю ў кантэксце грамадскага развіцця, укараненне і выкарыстанне інфармацыйных тэхналогій, а таксама іншыя пытанні.

Адбылося першае пасяджэнне Савета Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі ў новым складзе. Па яго выніках прынята рашэнне завяршыць фарміраванне складаў камітэтаў да 1 верасня 2013 года. Старшыням камітэтаў рэкамендавана больш актыўна прыцягваць да працы спецыялістаў з рэгіянальных бібліятэк. Члены Савета таксама абмеркавалі пытанні арганізацыі і правядзення Дня бібліятэк. Было вырашана, што галоўныя мерапрыемствы пройдуць 12 верасня на базе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Адбудзецца ўрачысты мітынг ля помніка Францыску Скарыне, прэс-канферэнцыя, прысвячэнне ў прафесію маладых спецыялістаў сталічных бібліятэк, адкрыецца выстаўка творчых работ бібліятэкараў рэспублікі. Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы акцыі возьме Міжведамасны гарадскі бібліятэчны савет.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

# Паміж Свіслаччу і Уздзянкай

*РАЗВАГІ НАД ПЕРШЫМІ ЗДАБЫТКАМІ МАЛАДОГА СКУЛЬПТАРА ЯРАСЛАВА ФІЛІПОВІЧА*

Так склалася, што ў беларускім мастацтве ХХ стагоддзя большасць творцаў паходзіць з малых мястэчак ці вёсак, а месцам творчага станаўлення і цэнтрам актыўнай прафесійнай дзейнасці для іх становіцца Мінск. У апошняй чвэрці мінулага стагоддзя ў сталічных мастацкіх сем'ях нарадзілася шмат здольных дзяцей, якія, таксама як і бацькі, абралі для сябе няпросты жыццёвы і творчы шлях. Да такіх прадстаўнікоў маладога пакалення скульптараў належыць Яраслаў Філіповіч, сын вядомага беларускага жывапісца і педагога Алеся Філіповіча.



Творчы тандэм В.Жбанаў — Я.Філіповіч

Ён пачаў маляваць і ляпіць з дзяцінства, паспяхова скончыў мастацкі ліцэй і потым без перапынку працягнуў сваю скульптурную падрыхтоўку ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (2000 — 2006). Яго дыпломная праца, прысвечаная Святому Валянціну, апекуну ўсіх шчыра закаханых, з'яўляецца ўзорам наватарскага адкрыцця прынцыпова новага рамантычнага героя ў сучаснай скульптуры.



Святы Валянцін г.Смалявічы

Гэта — сакральны вобраз аскета і пакутніка, што ўслаўляў высокія чалавечыя пачуцці, на якіх грунтуецца хрысціянская павага да людзей, міласэрнасць, спагадлівасць, чуласць. Скульптура, выкананая з вялікага камля дрэва, арганічна звязана з вялікімі традыцыямі барочных разьбяных алтарных кампазіцый, якія змяшчалі шмат вобразных адлюстраванняў святых у выразных малітоўных позах. Сучасная трактоўка Святога Валянціна адрозніваецца значным абагульненнем пластычнага вырашэння формы, адсутнасцю другасных дэталяў. Святы Валянцін у скульптурным вырашэнні носіць на галаве тыяру — рытуальны галаўны ўбор святароў высокага рангу. Безумоўна, каханне, якому ён ахвяраваў сваё служэнне, годнае такой епіскапскай ці кардынальскай атрыбутыкі.

У 2008 годзе Яраслаў Філіповіч выканаў удалую кампазіцыю ў бронзе, і яна стала сапраўды культавай для ўсіх закаханых у пасёлку Смалявічы ля адноўленай каталіцкай святыні. Скульптару ўдалося не толькі захаваць цэльнасць і выразнасць першапачатковага вырашэння ў дрэве, але і больш завастрыць рысы твару, падкрэсліць кантрасты святла і ценю праз гранёнасць культавага адзення — сутаны, што, нібы моцныя рыцарскія латы, пакрывае фігуру святога. Малады скульптар доўга і старанна працаваў над вобразам, не спрабуючы спрасціць для сябе пастаўленую задачу.

Адкуль у мінчаніна, які жыве ў вельмі тэхнакратычным сталічным асяроддзі, такая прага да рукатворнасці і выяўлення імпульсаў вобразнага жыцця ў адвечных скульптурных матэрыялах, такая працавітасць і жаданне давесці распачатую творчую ідэю да манументальнай значнасці? Несумненна, сваю не апошнюю ролю тут адыгралі сувязі з вясковым жыццём на Міншчыне, дзе непадалёк ад Узды Яраслаў правёў сваё дзяцінства і атрымаў яркія ўражанні ад прыроды, маляўнічага асяроддзя і штодзённых заняткаў па гаспадарцы сваіх дзядоў, многае запазычыў з іх культурных, духоўных, працоўных традыцый. А гэта вельмі загартоўвае і развівае кожную творчую асобу. Дай бог, каб такое традыцыйнае і свойскае асяроддзе яшчэ многім пакаленням беларускіх мастакоў і надалей дарыла першыя і незабыўныя ўражанні ад жыцця, скіроўвала іх да сапраўдных каштоўнасцей і вялікіх творчых мэт.

У 2008 — 2012 гг. Яраслаў уключыўся ў актыўную манументальную дзейнасць як верны памочнік вядомага мінскага скульптара Уладзіміра Жбанава. І нават пасля заўчаснага жыццёвага і творчага фіналу майстра здолеў завяршыць распачатыя ім працы, якія чакалі свайго ўсталявання на вызначаных пляцоўках. Малады скульптар прайшоў у майстэрні Жбанава выдатную тэхнічную і вытворчую практыку. А самае галоўнае — удасканаліў свой скульптурны стыль пад станоўчым уздзеяннем сталага калегі і кіраўніка.

Выдатны прыклад іх мастацкага адзінадушша — скульптурная кампазіцыя для фантана «Купалле» ў Маладзечне, якая ўслаўляе натуральнае хараство чалавека, яго захаваную беларускую сувязь з гуманістычнымі мэтамі і гарманічнымі ідэаламі.

Малады творца вельмі натхнёны такімі задачамі, пра што сведчыць, напрыклад, яго скульптура «Ветрык» з выявай маладой грацыёзнай дзяўчыны. Ён таксама не цураецца звяртацца да розных нестандартных скульптурных знакаў, сімвалаў, якія, паводле жадання жыхароў розных гарадоў, павінны ўпрыгожваць іх працоўныя святы і потым заставацца ў бронзавым выкананні на цэнтральных плошчах як напамін пра дасягненні і манументальнае аздабленне малой радзімы. Геаграфія такіх скульптурных знакаў майстэрні Жбанава: Ліда, Смалявічы, Маладзечна, Горкі, Магілёў, Мінск, Ніжні Ноўгарад, Даўгапрудны…

Лічу, такая тэматыка вельмі патрэбная і для іншых асяродкаў працы, культуры, дзе не заўсёды да месца мажныя манументальныя мемарыялы.

Вельмі актуальнай і перспектыўнай бачыцца сувязь Яраслава з рэгіянальнай скульптурнай тэматыкай. Яго праект помніка пісьменніку Кандрату Крапіве можа распачаць цэлую серыю вобразных вырашэнняў дзеячаў культуры, адукацыі і навукі, мужных вяроў і годных герояў працы, якімі славіцца Уздзеншчына. Хай натхненне, а таксама прага да творчасці і надалей спрыяюць маладому і ўжо вельмі дасведчанаму скульптару Яраславу Філіповічу.

**Яўген ШУНЕЙКА,**
**фотаздымкі з архіва Я. Філіповіча,**
**з Уздзенскай краязнаўчай канферэнцыі «Ствараем будучыню разам»**

# «Акула» беларускага авангарда

Вялікая зала Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў рамках праекта «Беларускі авангард 1980 — 1990-х гадоў» прадстаўляе персанальную выстаўку Уладзіміра Акулава «Месцазнаходжанне».

**Таццяна ШЫМУК**

Беларускі авангард 1980 — 1990-х перастаў быць невядомай тэмай. Сёння пра гэты перыяд сучаснага мастацтва шмат згадваюць і пішуць, што не замінае яму заставацца такім жа міфам, якім быў дзесяць год таму. Яшчэ больш узмацняюць гэтае ўяўленне ўспаміны сведак і непасрэдных удзельнікаў падзей 25 — 30-гадовай даўніны. Не стане выключэннем і знаёмства гледачоў з выстаўкай «Месцазнаходжанне» Уладзіміра Акулава. Гэта яшчэ і спроба зразумець, прыняць яго самога.

Уладзімір Акулаў нарадзіўся ў горадзе Баранавічы Брэсцкай вобласці ў 1954 годзе. Займаўся ў слуцкай студыі выяўленчага мастацтва. Працаваў дырэктарам Дома культуры на вёсцы, вулічным мастаком, афарміцелем, выкладчыкам выяўленчага мастацтва ў розных арганізацыях. Цяпер мастак жыве і працуе ў Слуцку. З 1985 года пачаў выставачную дзейнасць, браў удзел у рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выстаўках. Работы мастака знаходзяцца ў прыватных калекцыях Слуцка, Мінска, Расіі, Польшчы, Германіі, ЗША.



*Уладзімір Акулаў «Басурманка», 2013 г.*

Драматызм пошуку ўласнага месца, прыстанку суседнічае з абсалютным, дакладна схопленым паняційным грунтам, ідэалагічнай базай мастакоўскага самавызначэння. Акулаў ніколі не станавіўся па-за соцыумам, не замыкаўся ў сабе, сваіх перажываннях. Ён жыве і піша графічныя і жывапісныя творы выходзячы з таго, што займацца іншым не можа. Атрыманыя на мастацка-графічным аддзяленні Віцебскага педагагічнага інстытута інструментарый, уменне і рамяство з'явіліся праваднікамі пошуку яго ўласнага Я. Інтэрпрэтацыя вучэння нямецкага філосафа XIX стагоддзя Артура Шапенгауэра акрэсліла для яго рамкі абазначэння мастака як чалавека, які ўвесь час незадаволены сабой, чым больш ён працуе, тым мацней нарастае гэтае пачуццё незадаволенасці. Таму жывапіс для Акулава — не асалода, а хутчэй праца, «ёсць праца — ёсць сэнс жыцця». Але менавіта такое пачуццё робіцца рухальнай сілай да творчага прагрэсу аўтара і ў нейкім сэнсе з'яўляецца набліжэннем да адказу на адначасова важнае і цяжкае для яго пытанне: «Хто ёсць Я?»

У межах персанальнай выстаўкі прадстаўлены творы графікі і жывапісу Уладзіміра Акулава апошніх гадоў з асабістай калекцыі аўтара, а таксама з прыватнага збору калекцыянера і мастака Андрэя Плясанава: «Еўропа. XX стагоддзе» (2012), «Прадаўшчыца зямлі» (2012), «Царам і прасталюдзінам» (2012), «Басурманка» (2013), «Германскі сіндром» (2013), «Краявіды з хімаховай» (2013) і многія іншыя.

Выстаўка будзе працаваць па 24 жніўня.

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2585
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 01.08.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3379
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686